# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА 15 КАП.

**N 2**



БАРЫС МАЛХІН

ПРАЦА НА ЗАВОДЗЕ

ПЕРШАЯ ІЛЮСТРАВАНАЯ
ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24 НУМАРЫ**

і

ШТОМЕСЯЧНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ,
ГІСТОРЫІ, КРЫТЫКІ,

# „П О Л Ы М Я“

**12 КНІЖОК**

**замест 15 рублёў —**

**толькі 10 руб.**



Падпісчыкі, якія ўнясуць пры падпісцы поўнасьцю 10 рублёў — атрымаюць на працягу 1930 г. адразу дзьве часопісі — **„Чырвоная Беларусь“** і **„Полымя“.** Падпісчыкі час. **„Полымя“**, якія ўжо ўнесьлі гадавую плату, будуць атрымоўваць час. **„Чырвоная Беларусь“ дармова.**

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА НА 1930 ГОД

**„ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“**

| | |
|---|---|
| На 1 год | **3** р. |
| „ паўгода | **1** р. **50** к. |
| „ 3 месяцы | **75** к. |
| Цана асобнага нумару | **15** к. |

**„П О Л Ы М Я“**

| | |
|---|---|
| На 1 год | **10** руб. |
| „ паўгода | **5** руб. |
| „ 3 месяцы | **3** руб. |
| Цана асобнага нумару | **1** руб. |

## ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:

Бюро падпіскі БДВ (Менск, Савецкая, 63), яго агентура, акруговыя аддзяленьні і ўсе кнігарні БДВ, кіёскі контрагенцтва друку, усе пошты і лістаносцы ў гарадох і вёсках БССР.

Друкарня БДВ. Зак. № 315. Галоўлітбел № 1031.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

25 студзеня 1930

N 2

АДРАС РЭДАКЦЫІ
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63

Лінатыпістка за працаю
(1-ая Дзяржаўная друкарня, Менск)

Фото Ў. Азерскага



# НА БАЯВЫМ ВУЧАСТКУ КУЛЬТУРНАГА ФРОНТУ

**Ів. ЦЬВІКЕВІЧ**

**(Да 5-годзьдзя БДВ)**

Дарэволюцыйная прыватніцкая друкарня губэрскага Менску.

Дзесятак наборшчыкаў калупаецца над наборам візытных картак, „творений святых отцов церкви“, загадаў генэрал-губарнатара аб забароне рабочых сходаў і мітынгаў. Павольна цюпае ручная друкарская машына. Восем, дзесяць і больш гадзін рухае гэту машыну жывая рабочая сіла, нябачнымі ланцугамі голаду прыкутая да ручкі махавога кола.

Шэрая нуда пануе ў друкарні. І людзі і машыны даўно ведаюць, што робяць яны нудную, непатрэбную работу. Ці ня ўсё роўна: набіраць і друкаваць запрашэньне ў дваранскі клюб на баль у карысьць „раненых воинов-защитников царя и отечества“, ці ілжывыя тэлеграмы „главнокомандующего“ аб „посьпехах“ на германскім фронце, ці папоўскія казаньні, этыкеткі для піўных бутэлек, прэйс-куранты для рэстаранаў?.. Абы выгнаць норму, абы жыць.

Толькі адзін чалавек ёсьць у друкарні, які жвавенька бегае-тупае з канторы ў друкарню, з друкарні ў кантору, усім цікавіцца, за ўсім сочыць, усіх падганяе, набольш выціскае продукцыі. Бы той шэранькі пражэрлівы павучок рупліва даглядае сваю шэрую павуціннную гаспадарку ўласьнік друкарні.

Чырвоным сьмерчам пранеслася пролетарская рэволюцыя. Скруціла, скамячыла, з коранем вырвала стагоднія ўстоі памешчыцка-царскага рабаўладзтва. Рухнула вялізарная турма народаў і радаснае рэха аддалося ва ўсіх кутках зямное кулі, дзе працуе і змагаецца паднявольны пролетар. Рэволюцыйная бура параскідала эксплёататарскія гнёзды, зьнішчыла іх уласьнікаў або пазаганяла ў цёмныя шчыліны.

За некалькі год непазнальна зьмяніўся твар былое Расійскае імпэрыі. Паўсталі з набыцьця маладыя пралетарскія нацыянальныя рэспублікі і ўтварылі нябачны ў гісторыі чалавецтва Саюз Савецкіх Соцыялістычных Рэспублік.

На чале з комуністычнай партыяй пролетарскія масы гораду і вёскі стварылі БССР—савецкую дзяржаву, дзе разам жывуць і разам будуюць соцыялістычную гаспадарку і культуру шэсьць нацыяналнасьцяй—беларусы, яўрэі, рускія, палякі, літоўцы і латышы.

Каб сконцэнтраваць сілы і сродкі для масавага вырабу пролетарскае культурнае зброі—кнігі, партыя і ўрад стварылі пяць год таму назад буйную кніжную фабрыку -Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Гэтай фабрыцы на перадавых позыцыях культурнага фронту была дана дырэктыва выпускаць такую кніжную продукцыю, якая-б у руках партыі і дыктатуры пролетарыяту зьяўлялася сродкам комуністычнага выхаваньня і клясавай організацыі працоўных мас.

За пяць год працы БДВ выпусьціла ў сьвет на ўсіх шасьці мовах звыш сямі мільёнаў кніг—байцоў за справу рабочае клясы. Праўда, у гэтай сямімільёнай арміі былі і „перабежчыкі“ ў лягер буржуазіі, былі кнігі з нявытрыманай клясавай ідэолёгіяй. Выпраўляючы свае памылкі, беларуская кніжная фабрыка ўсё ўдасканальвае сваю продукцыю, усё зьмяншае колькасьць ідэолёгічнага браку.

У параўнаньні з дарэволюйнай прыватніцкай нуднай друкарняй, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва—гэта баявая позыцыя, адкуль нясупынна ідзе наступленьне кніжнай арміі.

Звыш пяцісот рабочых-друкароў і дзевяноста друкарскіх машын, якія пры поўнай нагрузцы даюць у дзень пятнаццаць тыс. экзэмпляраў гатовых кніг.

Зайдзеце ў ротацыйнае аддзяленьне друкарні ў той час, калі яе рыхтуюць пусьціць на поўны ход. Жвавыя рухі рабочых, напружанасьць кожнага з іх у момант пуску, выгукі старшага, які па-баявому, коратка дае загады—усё гэта надзвычайна падобна на працу батарэі ў часе боя.

Шырокі пас паперы, што ідзе з рулёна ў валкі гігантамашыны, нацягнуты, напружаны да апошняга, бы гатовы стрымгалоў рынуцца ў вузкую шчыліну паміж бліскучымі валкамі. Памоцнік машыністага, пільна чакаючы загаду, трымае руку на рэгулятары электрычнага току. Старшы яшчэ раз насьпех аглядае ўсе часткі машыны, сям-там падкручвае шрубы, пасьля крыху адыходзіць ад машыны, кідае на яе быстрым вокам, крычыць:

— Ток!

Бела-малочная рака зрываецца з месца, пралятае паміж валамі, тыя сыплюць на яе тысячы чорных кропак і плям, і вось на другім канцы машыны нясьціханым вадаспадам ліюцца гатовыя надрукаваныя аркушы кнігі... 10.000 аркушаў у гадзіну! Дзесяць тысяч аркушаў савецкай кнігі, пролетарскай кнігі, якая б'е па нашаму клясаваму ворагу. Глядзіш на гэтага рабочага з закасанымі, запэцканымі фарбай мускулістымі рукамі, які пад сьпеў мотора і грукат машыны, весела ходзіць і правярае ці трапна „б'е“ яго машына, дык так і здаецца, што гэта камандзір чырвонай батарэі на баявой позыцыі. Вось ён толькі што ўпэўнена і цьвёрда перадаў на сваю „батарэю“ загад партыі пролетарыяту:

— Па някультурнасьці, няпісьменнасьці, рэлігіі, бюрократызму, буржуазнай ідэолёгіі, па ўхілах ад лініі партыі, па ўсіх ворагах пролетарыяту—

Агонь!...

# АРХІТЭКТУРА НОВАГА МЕНСКУ

## ПРАЭКТ БУДЫНКУ ФАБРЫКІ-КУХНІ



Пабудова ў Менску фабрыкі-кухні пачнецца сёлета.

# ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КП(б)Б

## Інформацыйнае паведамленьне

3-8 студзеня адбыўся Пленум Цэнтральнага Камітэту КП(б)Б. Пленум разглядзеў наступныя пытаньні: 1) Аб колектывізацыі сельскае гаспадаркі БССР і задачах веснавой с.-г. кампаніі. 2) Аб матэрыяльным становішчы і культурна-бытавым абслугоўваньні рабочых. 3) Аб соцыялістычнай рэконструкцыі і задачах КП(б)Б па ўзмацненьні кадраў. 4) Аб рабоце ЛКСМБ і задачах партыйнага кіраўніцтва Комсамолам. 5) Організацыйныя пытаньні. Адпаведныя рэзолюцыі Пленуму будуць надрукаваны.

Апрача таго, Пленум заслухаў інформацыю аб пазыцыі тав. Чарвякова ў барацьбе з правым ухілам і нацыяналдэмократызмам, цалкам і поўнасьцю адобрыў усе пастановы Бюро ЦК і Прэзыдыуму ЦКК, а таксама Сакратарыяту ЦК па гэтым пытаньні.

Пленум аднагалосна абраў першым сакратаром ЦК КП(б)Б тав. Гея К. В., а таксама пастанавіў кааптаваць тав. Рапапорта ў члены ЦК і абраць яго ў члены Бюро ЦК.

Пленум ЦК у сувязі з водзывам т. Каркліна, т. Піляра і Кажэўнікава ў распараджэньне ЦК УсеКП(б) для адказнай працы пастанавіў лічыць гэтых тав. выбыўшымі з ЦК. Пленум пастанавіў перавесьці т. Аронштама з кандыдатаў у сябры Бюро і абраць у склад Бюро ЦК тав. Бэнэка.

Пленум пастанавіў у замен выбыўшых сяброў ЦК абраць у ЦК тт. Лацыса, Бялугу, Амбражунаса.



Новы сакратар ЦК КП(б)Б т. К. В. Гей.



Дэлегаты пленуму чытаюць „Чырвоную Беларусь“



Тав. Гей і т. Галадзед сярод дэлегацыі сормаўскіх рабочых.

**Павесьці рашучае наступленьне на кулацтва, зламіць яго супраціўленьне, ліквідаваць яго як клясу і замяніць яго вытворчасьць вытворчасьцю калгасаў і саўгасаў.**

# Па Прыпяці

Апавяданьне ВАСІЛЯ КАВАЛЯ

Малюнкі Я. Ахрэмчыка

РАПТАМ за крутым выгібам пануpага берагу зьнікаюць аганькі ціхага мястэчка,—але адчуваеш, што яны мільгаюць яшчэ ў хатах, закінутых у брудна-зялёнай даліне. Яшчэ адчуваецца штурханіна на беразе, крыкі, просьбы, сьмех і нейкая няўдалая песьня, што прабавалі людзі засьпяваць на прыстані, калі садзіліся на гэты параход. Яшчэ ў нардоме, ярка асьветленым, пасьля дакладу будуць гуляць людзі пад музыку. Ад'яжджаеш і неяк сумна трошкі робіцца пакідаць гэта... І толькі відзен застаецца адзін маяк, як жоўтая пляма на пяшчаным узгорку ці сонца ў туманны дзень...

Ноч празырклівая і пахне далячынь нязьведаным адчуваньнем; ноч—кучаравая із чырвонымі зорамі. Зоры, як кроў, палошчацца і гараць.



... Пасьля шуму, штурханіны, усё супакойваецца

А вада—цёмная і мутная. Крыльлямі лапаціць вялікая птушка пад параходам, пырскае пенаю, зьбіраецца адляцець і ня можа адарвацца—неспакойная.

Густы і напорны голас капітана на палубе.

— Угу-а-э-э...

Голасу ня чутна ў трэцяй клясе.

Цесна, душна, потна.

Людзі старающца заняць сабе месца — штурханіна, рупівасьць.

— Таварышы, прашу не займаць тут! Куды вы лезеце?.. Ці ня я вам кажу? Та-ва-рышы!

І змучанага голасу міліцыянэра ня хочуць заўважыць.

Але—пасьля шуму, штурханіны, усе супакойваюцца—і русабароды запылены селянін, і капрысная чырвонашчокая дзяўчына, і яўрэй з чорнай барадою, падобны на рэбэ, і потны, лысы, шырокарукавы прадстаўнік боскасьці на зямлі, і з рашпіленымі каўнярамі, са скуранымі сумкамі цераз плечы, аматары нязьведаных адчуваньняў—пара вандроўнікаў.

Дзябёлы міліцыянэр, закінуўшы нага на нагу, заспакоена сеў у куток. Побач хлопец з каравымі нагамі і ў вялікай пакамечанай шапцы, адзетай на адтапыраныя вушы. Прыплюснуўшы правае вока, міліцыянэр перавёў утомны погляд на другога. У чалавека постаць панурая, у ёй нешта цяжкое і зьвераватае, як у ваўка, прышчаміўшага лапу; у яго суровыя апушчаныя вочы і васпаваты, аброслы рэдкай сіняй шчацінкаю твар, у які нязручна глядзець доўга.

„Якая свалата,—думае міліцыянэр.—І мне трэба іх абодвух даставіць у акруговую міліцыю. Адзін засуджаны на дзесяць год зьняволеньня, другі—на шэсьць".

Міліцыянэр спадлоб'я глянуў на іх...

Усё здавалася спакойным і ў гэтым спакоі быў неспакой і боязьнь. Бровы ў міліцыянэра навісалі на вочы, а вочы адыходзілі ў глыб і вугалкі губ сьціскаліся, як тады, калі рука ўпэўнена сьціскала сталь нагана, і ніжняя шурпатая губа была прыкушана да болю...

Параход вымерваў кілёмэтры. З аксамітавага неба спадалі ў мутнаводую Прыпяць зоры. Самыя людзі храпелі. Пануры апусьціў галаву на грудзі, заплюшчыўшы вочы, а цёмна-рыжая брывя дзіўна была паднята на лоб. Хлапец з бруднымі нагамі адкінуўся галавою да сьцяны і храпеў, разявіўшы рот. Параход ціханька хістала ў бокі.

Сукрыстая і чубатая міліцыянэрава галава ў форменнай шапцы на патыліцы быццам ківала некаму невядомаму. Спаць хацелася... Але цёмна-рыжая брывя так дзіўна падведзена на лоб панурага чалавека. Здавалася, яна яшчэ вышэй падымаецца на лоб і шэрае, зьвераватае вока злосна падміргвае.

Міліцыянэр шчыльна прыціснуў галаву да сьцяны, памацаў рукою халадок нагана, яшчэ раз позіркам абвёў людзей і раптам усё так яскрава ўявілася...

Некалькі дзён бегалі, лавілі бандытаў, і вось, злавілі яго, ваўка. Трэба даставіць было ў акруговую міліцыю. Начальнік райміліцыі, нэрвова зводзячы жаўлакі на шырокім твары, шпарка хадзіў па канцылярыі.

— Людзей мала... Усіх накіраваць на пошукі. Прыдзецца аднаму весьці. Хто, таварышы, возьмецца?



... Міліцыянэр спадлоб'я глянуў на іх...

Шэсьць іх было і ўсе маўчалі. Ускочыў ён і сказаў:

— Я... магу... таварыш...

— Возьмешся, Аксёнаў?

— Магу!

— Зьбірайся!..

— Слухаю...

Размова была кароткай...

І вось — параход, цесната, духата... Некалькі зялёных бяссонна-трывожных начэй.. Не адзін раз даводзілася вадзіць... Цяпер—жонка сьпіць, разам з ёю, шчыльна прыціснуўся трохгадовы сын—сукрысты і сьветлавокі. І гэтыя зялёныя ночы і ў начах страх і перамога. Ах, чаму такая непакорная галава? Што гэта? Здаецца падміргвае цёмна-рыжая брывя?.. Не, яна толькі больш апусьцілася на вочы, зрабіўшы тры зморшчынкі на сухой пераносіцы... Мабыць, сьпяваюць у полі жаўранкі... Што гэта? Нехта скрабе аб падлогу ботам?..



...І анямеў у балючай тузе...

Сталь нагана пацяплела... Пашлі хадзіць кругі, як на вадзе; кругі каляровыя, ня зьлічыць колераў. Можа гэта кругі жыцьця? Фронт... барацьба... кроў... Кругі робяцца аграмаднымі, засланяюць сабой усе, падхопліваюць з неймавернай сілаю чалавека і кружаць. Перад вачыма зьяўляецца толькі адзін колер. яшчэ нявызначанае формы. І раптам, як маланкаю...

— Дзын-н!

— Б-бу-х-х...

— Ш-ш-ш...

Хвалі шумяць.

Міліцыянэр уздрыгнуў, убачыўшы разьбітае шкло і спалоханыя, настарожаныя твары пасажыраў. Глянуў у вакно—муць, цемень усё заслала.

— Скочыў! Уцёк!

Няма панурага чалавека, вось толькі засталіся яго боты і сьвітка...

Раптам зрабіліся вочы мутнымі... Наган—чорненькі, руля бліскучая. Пакуль варушацца людзі, руля нагана расчыняе цёмнае бяздоньне, у ім можна схавацца з галавою. Наган,—як лёд. Рукі гарачыя. Сэрца—няма. Хутчэй, пакуль не апусьцяцца рукі! Ён і падносіць наган да сэрца.

І шэпча: Р-раз!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

І толькі пахіснуўся. І анямеў у балючай тузе.

Шырока расстаўлены ногі, апушчана ўніз галава, валіцца з рук наган і браскае аб падлогу...

— Ня змог!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Матрос марляй перавязвае міліцыянэравы грудзі.

— Эх, здрэйфіў, таварыш. Ну, навошта гэта было?

— Н-ня змог! Дайце мне наган...

— Кінь, таварыш, ня дуры галавы...

А галава ўсё ніжэй апускаецца на голыя ў крыві грудзі. Вочы спадлоб'я завалочваюцца туманом... і зараз толькі адзін чырвоны круг...

— Ня змог!

Пад параходам б'ецца вялікая зялёна-крылая птушка. Зьніклі некуды зоры, замест іх на падлозе кроў, але яе змывае матрос. Абрысы цёмных берагоў ярка вылучаюцца...

Днее...

## Сталіца

УЧОРА, як золак расою
бледныя зоры гасіў,—
певень жыцьцё гарадзкое
прывычнаю песьняй будзіў.
У гонар сталетніх традыцый
з замкавых веж стары́ны—

Рэспублікі нашай сталіцу
ганьбілі звонам—званы.

СЁНЬНЯ—мы пеўня ня чуем,
гудком сёньня сьцелецца дзень!
І песьню званоў векавую
ня чуем у лёце падзей.
Вагранка няспынна іскрыцца,
плавіць званы на мэталь.

Рэспублікі нашай сталіца
ў прыбоях творчых хваль.

ЗАЎТРА—чаруюча ўзойдзе
сонца разьлівам душы
і новаю вуліцай пройдзе,
рытмамі новых машын.
Зямлі тваёй межы-граніцы
зруйнуе магутны комбайн.

Рэспублікі нашай сталіца
ў Вялікае Заўтра—крыляй!

АНДРЭЙ АЛЕКСАДРОВІЧ



**Навуковыя дасьледчыя інстытуты: нафты (будынак справа) і тэкстыльнае прамысловасьці (будынак зьлева), пабудова якіх у Маскве сёлета скончана.**

# 21-га СТУДЗЕНЯ 1924 ГОДУ

Фото Т. Бунімовіча



**Сьмерць правадыра**

Скульптура Меркулава,

# ПАМЁР ПРАВАДЫР











**На верхнім малюнку: Пахаваньне У. І. Леніна. Ніжэй: Помнік Леніну ў гор. Сьвярдлоўску. З праваѓа боку: Поўныя зборы твораў У. І. Леніна на замежных мовах: французскай, ангельскай і нямецкай.**

ПРА сьмерць Леніна даведаліся 22-га, раніцою.

Дзень быў марозны. У жорсткім студзёным паветры глуха аддаваўся шум тэлеграфных дротаў. Здавалася, што яны гудуць бясконца пра адно і тое самае: адчуваюць, як асірацела краіна і нясуць гэтую жалобу далей—па ўсім сьвеце.

22-га ўвечары быў склікаsuccessfully сход, прысьвечаны ахвярам расстрэлу 9-га студзеня 1905 году. Але здарэньні, якія адбыліся 19 год таму назад, у гэты вечар адышлі на другі плян. Сэрцы, думкі,—усё поўнілася адным толькі пачуцьцём: Леніна няма... Няма Леніна...

У клюбе Карла Маркса сабраўся Менскі партыйны актыў. Апавіты чорным крэпам знаёмы, родны твар Ільліча пазіраў з портрэта, балюча рэзаў вочы, прымушаў сэрцы сьціскацца ў нястрымнай тузе.

Але ня гледзячы на гэта з трыбуны ліліся бадзёрыя словы.

Вера Харунжая казала:

— Сваё гора, сваю нядолю жанчына звычайна выяўляе ў сьлязах, у плачы. Але мы,—жанчыны-бальшавічкі хоць і страцілі самае вялікае, агромністае,—страцілі Леніна, мы не пральлем ніводнае сьлязінкі. Ня будзем уздыхаць, ня будзем плакаць, але будзем гаварыць гордыя словы пра Леніна, пра Вялікага Ільліча.

... Барысаўскія чыгуначнікі запэўнілі партыю, яе Цэнтральны Камітэт, што яны будуць працягваць ленінскую справу...

... Менскія чыгуначнікі на вялізарным мітынгу прысягалі вечна насіць у сэрцах памяць пра Ільліча.. Яны першыя ўхвалілі пабудаваць помнік Леніну і першыя ў Менску ў сваім клюбе адчынілі Ленінскі куток.

... Менскія гарбары паслалі ў партыйны камітэт заяву, у якой пісалася - прызнаючы, што цяпер адказнасьць комуністычнае партыі павялічылася ў дзесяць разоў і што справу Леніна, справу яго партыі можна выканаць толькі колектывам, 28 з нас уступаюць у шэрагі партыі...

Гэта былі першыя Ленінцы з тысяч, якія ўступілі ў партыю потым.

Разам з горадам тую-ж жалобу перажывала і вёска.

У Хрунаве, Грозаўскае воласьці, сяляне, даведаўшыся пра сьмерць Леніна, над кожнай хатай вывесілі чорны жалобны сьцяг.

У Цімкавічах пяцідзесяцігадовы стары селянін-бядняк, няпісьменны, прасіў сына напісаць заяву, каб прынялі яго ў „гурток" (партыю) Леніна.

... Дзеці яўрэйскае сямігодкі ў Цімкавічах, з прычыны сьмерці любага правадыра, пішуць:

— Мы ўпэўнены ў непарушнай моцы Савецкае ўлады і ў блізкасьці сусьветнае рэволюцыі...

Дзеці!...

Для іх імя Леніна - адно з першых, якое яны пачынаюць разумець і вымаўляць...

Гэта было 22 студзеня, у першы дзень па сьмерці Леніна, у пякучы — марозны дзень.

Глуха плакалі тэлеграфныя правады.

Родны, знаёмы твар Ільліча быў апавіты чорным крэпам. Я. С.

# НА ВУЛІЦЫ

Апавяданьне Л. РОДЗЕВІЧА



Малюнкі Р. Філіпоўскага

У каморку з прысьлепаватым вакном бадзёра ўвайшла вучаніца—падлетак.

— Чаму, мамулька, сёньня так рана?—і дзяўчынка кінула кніжкі на палічку, што вісела на сьцяне падвязаная шпагатам.

— Здарылася, дачушка, тое, чаго я баялася. Прагналі. Ня можаш, кажуць, ты спраўляцца з машынай. Дзевятнаццаць гадоў, цэлы век працавала, а цяпер калі выціснулі ўсе сілачкі—прагналі.

Плакала кабеціна моўчкі—не галасіла, толькі час ад часу змахвала з бледнага касьлявага твару набегшыя горкія сьлёзы. Ад гэтага ў беднай каморцы, куды нават і сонца ніколі не заглядае, стала яшчэ больш бедна і панура.

— Ну, што-ж. Не пайду ў школу, пашукаю заработкаў. А плакаць, мамулька, ня трэба. Мне здаецца, што я вельмі лёгка знайду службу. А галоўнае, што за навуку ня трэба будзе столькі плаціць—гэта-ж мы столькі грошай куды садзім.

— Ты, Маня, яшчэ маладая, ты не разумееш таго, што перад намі галодная сьмерць. Я зьнядужэлая і хворая—няма сіл, няма моцы чапляцца за жыцьцё-быцьцё, змагацца з ліхам. А ты, зялёная, кволае стварэньне, толькі і ведаеш дай. Вось я меркавала: падвучу, хутчэй станеш на ногі. Ну, а цяпер што рабіць—проста галава ходырам ходзіць.

— Нічога, матулька, страшнага. Я ўжо не такі зломак, як табе здаецца. Пайду куды на фабрыку—ты-ж таксама яшчэ дзяўчынкай стала служыць. Толькі вось на фабрыцы крыўдзяць, дык можа лепш у магазын я і прыстроіцца, каб прадаваць, гандляваць, угаварваць пакупцоў—гэта так лёгка і весела. Ды нарэшце я ўмею падлогі мыць, пыл сьціраць дык у пакаёўкі пайду. Я і без гэтага ўсё думала кінуць вучобу, бо моташна мне было дзынцыкі біць у той час, калі ты, матулька, на фабрыцы душышся ад тытунёвага пылу.

Гэтай ночу не магла заснуць маці. Вясёлыя запэўненьні і лятункі Мані на фоне чорнае будучыні і вакольнай галечы яшчэ больш нагналі жалю і пякучай болі. Успылі таксама яе юнацкія гады, калі яе сірату, пухатую чарнавокую дзяўчыну прынялі на тытунёвую фабрыку. Колькі было радасьці і гордасьці называцца работніцай, працаваць разам са сталымі, побач з афабрычанымі, загартаванымі працай і барацьбой рабочымі, атрымліваць пэнсію... Агіднай, бруднай плямай успылі ўспаміны аб прычэпках і лапаньнях старшага майстра, яго гвалтах. За супраціўленьне выгнаў быў з фабрыкі на вуліцу. А вуліца ліпучымі гразкімі рукамі цягнула ў бруд, у п'янства, распусту. Дык мусіла вырушаць, аддалася на зьдзек і паняверку. Тыя мінулыя жудасныя пачуцьці цяпер ізноў ажылі. Ізноў сьмярдзючыя агідныя рукі вуліцы з усіх цёмных куткоў прагнуцца схапіць яе самае найдаражэйшае, наймілейшае—яе дачку Маню.

Не, яна не аддасьць Мані. На ўсё пойдзе, да апошніх сіл будзе біцца, на дно сэрца схавае гэтую выпешчаную радасьць, хай баруць з сэрцам, з жыцьцём. Не, яна сваёй дачкі не аддасьць для вуліцы. Маню могуць узяць толькі мёртвую. Яна сама заб'е дачку, а не аддасьць.

— Мама, матуленька—пачулася тут-жа з цемнаты.

— Га? Што? Гэта ты, Маня?

— Я.

— Ты што-ж ня сьпіш?

Маня ўкленчыла перад ложкам маці і ўтуліўшы твар у падушку захліпвалася ад горкага плачу. На доўгія допыты і супакойваньні ўрэшце праз рыданьні адказала мацеры;

— Вучыцца хачу, мамачка, вучыцца...

Гэтыя словы дачкі, для якой маці аддала ўсё жыцьцё, усе надзеі, выклікалі напружаньне ўсіх яе пачуцьцяў, усёй энэргіі і здатнасьці. Гэтае напружаньне, дайшоўшы да кульмінацыйнага пункту, запаланела нечаканай рашучасьцю. Маці нашла выхад з цяжкага становішча, гэта быў выступ на крутой роўніцы, і а гэтым выступе яна з дачкой можа супыніцца, набраць сіл і зноў выкараскацца наверх. Яна як-быццам абудзілася ад цяжкага сну. І цяпер зусім спакойна, якбы нічога ня здарылася, уціхамірвала Маню, казала, што яна будзе вучыцца і надалей, бо маці надумала сабе службу—будзе зарабляць. Няхай дачка ідзе спаць, бо заўтра раненька трэба ў школу, яна таксама хоча рана ўстаць, каб памыць бялізну, бо ўжо колькі часу ня мыта.

Іх жыцьцё як-бы зусім не зьмянілася. Маці выходзіла кудысьці кожны дзень, як казала на заработкі—быццам хадзіла прыслужываць у багатую яўрэйскую сям'ю. Прынасіла крыху грошай, часамі розныя ежы. Маня і далей старанна вучылася і расла на прыгожую дзяўчыну, прынамсі, так мацеры здавалася. Мала таго, Маня вельмі спрытная, дасьціпная дзяўчына: вось яна ўжо нават зарабляе—дае лекцыі. Праўда, не самастойным чалавекам.

Атрымаўшы першую плату, Маня ішла вечарам дадому, адчуваючы сябе сапраўдным героем. Ад напльіву задаволеньня і радасьці ёй захацелася нешта зрабіць такое, што вышла-б за межы яе звычайнай жыцьцёвай сьцежкі. Ішла яна дадому з працілежнага канца горада, далёка было ісьці, так што зьбытак энэргіі выкарыстоўваўся на доўгую дарогу. А калі ўспомніла хворую і зьнябытканую маці, дык і зусім уроўнаважылася. Пра матку напомніла ёй жабрачка, якая ішла перад ёй. Кожная старэнькая, забітая кабеціна выклікала ў Мані параўнаньне з яе маткай, выклікала жаль і спачуваньне.

— Вось дам колькі грашакоў гэтай убогай—ніколі ня прыходзіцца дарыць жабракоў —І яна прысьпешыла крок, каб дагнаць жабрачку.

Аднак, наблізіўшыся, Маня раптам спынілася: жабрачка ў яе выклікала прыкрую падазронасьць. Адстаючы на колькі крокаў, Маня потайкам ступала сьледам за гэтай кабецінай, якая па дарозе вымольвала падачкі ў прахожых. Недалёка ўжо ад дому Маці жабрачка ўвайшла ў цемень варот высокага мураванага дому. Маня, прытуліўшыся да сьцяны, чакала. Урэшце кабеціна са зьвязаным у хустку клумкам выйшла з варот—гэта была тая жабрачка, але яна ўжо цяпер мела іншы выгляд, выгляд мацеры Мані.

Прышоўшы, дамоў Маня, каб ня лішне хваляваць і крыўдзіць маці, цераз сілу трымалася



...Жабрачка ўвайшла ў цемень варот высокага мураванага дому...

так-сяк спакойна, дзякавала яе сардэчна за самаахвярнасьць, песьціла і прыгортвала да сябе схудалую, вінаватую, маўклівую ад сораму, а такую дарагую і добрую сваю матулю.

— Ня трэба, родненькая, гэтак болей. Ня шукай на вуліцы зьмілаваньня. Пакінь, матулька—угаварвала ласкава дачка, а ў самой надрывалася ў сярэдзіне ад унутранага рыданьня, ад таго, што прыдаецца разьвітацца з вучобай, што трэба, урэшце, самой брацца голымі рукамі за жыцьцёвыя калючкі.


...Вось і цяпер ...выкідаюць іх нават з гэтай вільготнай цёмнай каморкі.

Хоць Маня атрымала ящчэ некалькі ўрокаў, але трудна было пражыць на гэтыя мізэрныя грошы. А сталай службы яна ніяк не магла дабіцца—у горадзе не такія, як яна, без работы гібеюць. Кіраваць гаспадаркай іхнай каморкі пачала Маня. Яна клапацілася аб тым, каб было што перакусіць, каб было чым абараніцца ад халадэчы, адным словам усе клопаты, усе сілы і энэргію трэба было накіроўваць на тое, каб захаваць дыханьне, каб змагацца з павольным ціхім заміраньнем.

Вось трэба Мані з другога канца гораду ісьці дадому. Яна мае некалькі грошаў у кішэні. Пачынаецца доўгае разважаньне аб тым, сесьці ў аўтобус ці пяхтурою сыпаць. На вуліцы вельмі гразка, чаравікі цякуць, могуць у гразі падэшвы адваліцца, можна прастыць, захварэць, а гэта ўжо найгоршая бяда, нарэшце ўжо позна, маці яшчэ нічога ня ела, дый па вуліцы цяпер ісьці паскудна - чапляюцца, прыстаюць, абражаюць...

— Лепш паеду—рашае Маня. Плаціць за білет і сьціскае ў кулачку апошні маленькі грошык, але ён ёй здаецца такім вялікім, важкім, адчувалым.

Біліся дзьве жанчыны ў ціскох капіталістычнага гораду, на кожным кроку натыкаючыся на пасткі, правальлі і ўсякае ліха. Нібы так-сяк мадзеюць, перабіваюцца з дня на дзень і раптам нейкае насланьне. І колькі трэба палажыць сіл, стараннасьці, працы, трывогі, здароўя, каб перамагчы гэты вывіх у жыцьці, каб ізноў так-сяк выпрастацца пад цяжарам галечы, безбароннасьці, беспатольля.

Вось і цяпер гаспадар дому, судовая ўлада і паліцыянты выкідаюць іх нават з гэтай вільготнай цёмнай каморкі, бо не змаглі заплаціць за памяшканьне. Стаяць яны абедзьве каля муру, прытуліўшыся адна да другой, а ворагі выносяць на панадворак іх хатнія здабыткі-манаткі і раскідаюць тут-жа.

Ужо няма сіл ні супярэчыць, ні змагацца — рабеце што хочаце — зьвяры, каты. Няма ніскуль падтрыманьня, усюды яны валадараць—багатыя, сытыя, здаровыя. Колькі разоў ёй, старой работніцы, прышлося зносіць іх грубую хамскую паняверку, сорам і ўніжэньне толькі таму, што яна бедная, работніцкага роду. Яны вытваралі над ёй што хацелі, выкарыстоўвалі яе красу і здароўе дзеля задавальненьня сваіх дзікіх разбэшчаных пачуцьцяў, высмоктвалі па кропельцы яе сілы, любуючыся, цешачыся з яе мук, яе згасаньня. Колькі разоў яна пакорна стаяла ў іх парогах, парабску згіналася да ног, пасабачаму цалавала іх пухлыя, напарфумаваныя рукі.

Адзін толькі раз, калі была забастоўка на фабрыцы, яна пачула сябе дужэй за іх, яе ўзьняло вышэй усіх штодзённых клопатаў і бед. Тады рабочыя зьнянацку накрылі былі старшага майстра фабрычным брэзэнтам і пабілі да паўсьмерці.

Яна ручкай ад машыны змагла выцяць толькі два разы нельга было за рабочымі прыступіцца, каб больш спагнаць сваю крыўду. Тады рабочыя сьпявалі такую радасную, бадзёрую сваю песьню, вось тую самую, што і цяпер чуваць, там на вуліцы яе пяюць:... паўстань хто з голаду век пух...

Маці, вызваліўшыся ад абдымаў дачкі, топчучы на дарозе выкінутыя свае рэчы, шпарка пайшла з панадворку на вуліцу.

А на вуліцы было рабочае сьвята—стройнымі радамі, з чырвонымі сьцягамі праходзіла міма дэмонстрацыя. Сотні грудзей ускалыхнулі паветра „Інтэрнацыяналам". Энтузіязм дэмонстрацыі захапіў маці. Першае пачуцьцё, якое яе ахапіла, калі яна агледзіла рабочую масу, такую ёй блізкую і зразумелую—гэта, каб зьліцца разам з імі, запець разам з імі. Але тут-жа ўспомніла, што рэчы валяюцца на панадворку, што ані слоў, ані мэлёдыі гэтай рабочай песьні яна ня ўмее.

— Браточкі, таварышы, рабочыя—лепятала яна засмучоная, вінаватая. У гэты час міма яе прамільгнула Маня і, падбегшы да рабочага, які нёс сьцяг, раптам прыпала да дрэўка сьцягу, ажно ён захваляваўся ў паветры. Маці бачыла як Маня вымольвала, цалавала загрубелыя рабочыя рукі, што трымалі сьцяг, а пасьля кусала іх, грызла. Урэшце далі ёй рабочыя рукі дрэўка і яна, высока нясучы чырвоны сьцяг, хутка зьмяшалася ў радох, адыйшла, зьнікла сярод рабочае масы.


З чырвонымі сьцягамі праходзіла міма дэмонстрацыя...

Цокат падкоў аб брук адвёў вочы маці ў іншы бок — яна згледзела, як паліцыя з голымі шашкамі налятала на дэмонстрантаў. Ня помнячы сабе ад нянавісьці і поўная трывогі за дачку, маці кінулася да бліжэйшага паліцыянта і з праклёнам абедзвюма рукамі хапілася за шашку. Паліцыянт спрытна крутануў шашку і ў жменях маці засталася гарачая крывавая мязга.

Падняўшы ўгору акрываўленыя кулакі, бегла маці грозная, развіхураная, як сама помста. І праз боль, нянавісьць і трывогу зьвінела падсьвядома, нявыразна ў яе пачуцьцях мэлёдыя „Інтэрнацыяналу".








Артыкул праф. М. ШЧАКАЦІХІНА

Фото Дашкевіча і Азерскага

У МОЦНЫМ поступе соцыялістычнага будаўніцтва стары Менск хутка зьмяняе сваё аблічча. Між мінулым захудалым, дробна-шляхецкім і дробна-буржуазным „губернским городом Минском“ і нашым цяперашнім пролетарскім Менскам, сталіцай Савецкай Беларусі — цэлая прорва.

Нязьмерна важную ролю ў гэтым пераможным будаўніцтве грае як новы зьмест, так і адпаведнае яму знадворнае аформленьне новых пабудоў. Ранейшым менскім прыватнаўласьніцкім домінам і вялікім „даходным домам“ разам з прылізанымі паказёнаму афіцыйнымі будынкамі губэрскіх устаноў, а таксама рэшткамі старадаўняй фэодальна-клерыкальнай архітэктуры, новае будаўніцтва проціставіць зусім іншыя тыпы пабудоў: рабочыя клюбы, будынкі новых навукова-культурных устаноў, будынкі дзяржаўных і гаспадарчых устаноў, дамы рабочых кватэр, новыя фабрычныя і заводзкія гмахі.

Акідваючы самым беглым поглядам найбольш прыкметныя з ліку новых менскіх буынкаў, лёгка, аднак, заўважыць, што найбольш удалыя з іх па архітэктурным вырашэньні прыпадаюць на будынкі ўстаноў і часткова дамы рабочых кватэр. Так, аднэй з першых у новачасным менскім будаўніцтве паўстала масыўная камяніца новага Дому Селяніна, дзе былі знойдзены досыць трапныя пропорцыі распадзелу фасадаў. Яшчэ лепш аформлены будынак Комунальнага банку на рагу вул. Карла Маркса і Ленінскай, у якім дасягнута лёгкае і прыгожае разьмеркаваньне архітэктурных мас з паступовым падвышэньнем да рогу, дзе высунута ўгару просталінейная надбудоўка з тонкай мэталёвай, запоўненай надпісамі, агарожай. У блізка падобных формах збудаваны і новы Хэмічна-фармацэўтычны завод Белмэдгандлю, крыху сапсуты толькі залішнім абцяжараньнем рогу вялізнымі вэртыкальна разьмешчанымі па фасадах літарамі надпісаў. Нарэшце ў ліку дамоў рабочых кватэр можна памянуць як больш-менш удалыя — адзін на рагу Унівэрсытэцкай і Комсамольскай вул., і другі на рагу Комсамольскай і вул. Карла Маркса, праўда яшчэ ня скончаны, — якія па-новаму зьмянілі ранейшы сумны выгляд сваіх кварталаў.

Цяжка яшчэ пакуль што казаць аб Універсытэцкім гарадку, дзе далёка ня скончаны ўвесь намечаны да пабудовы ансамбль. Але па тых корпусах, якія ўжо збудаваны, здаецца, што тут справа стаіць крыху горш. Тут бадай што ня знойдзена патрэбнае раўнавагі паміж канструкцыямі будынкаў, іх знадворным аформленьнем, прызначэньнем паасобных памяшканьняў, у выніку чаго аднастайныя, крыху прысадзістыя корпусы набылі нейкі кашарны выгляд, і хоць належна прыстасаваныя ўнутры, не выяўляюць знадворку тэй суровай паважанасьці, якая была-бы ўласьціва вышэйшаму асяродку пролетарскае асьветы ў БССР.



Менскі Дом Селяніна (рог Чырвонаармейскай і вуліцы Карла Маркса).

Таксама ўжо зараз можна падкрэсьліць шэраг недахватаў у фабрычна-заводзкім і клюбным будаўніцтве. У будаўніцтве новых фабрык у Менску пакуль што яшчэ адчуваецца як-бы падыход са старымі меркамі і адхіленьне ўсялякіх архітэктурных задач. Толькі гэтым можна вытлумачыць, напрыклад, зьяўленьне такога змрочнага, монотоннага, чыста „фабрычнага“ ў найгоршым старым сэнсе корпусу, як новы будынак Кондытэрскае фабрыкі на Ляхаўцы. Справа ў недастатковай архітэктурнай прадуманасьці проекту, у голай яго ўтылітарнасьці. А думаецца, што пры будаўніцтве новых соцыялістычных фабрык і заводаў пролетарская архітэктура павінна асаблівую ўвагу аддаваць выразнасьці форм для перадачы новага зьместу. Бо тут трэба выпукліць усю карэнную розьніцу: пры капіталізьме—фабрыка ёсьць жудаснае месца запрыгоненьня пролетарыяту; у нас — яна месца вольнай колектыўнай працы, адно з істотнейшых вогнішчаў соцыялістычнага будаўніцтва. Архітэктура павінна гэта падкрэсьліць, у ёй павінна адбівацца радасная моц вызваленьня працы і яе творчага ўздыму. Вось гэтага ў нашых будынках пакуль што і няма. У памянёным вышэй фармазаводзе тут кінуліся як-бы ў іншую крайнасьць і зрабілі яго цалкам падобным да кожнага жылога дому, — так што адкінь з фасадаў надпісы можаш зьмясьціць у ім альбо якую-колечы ўстанову, або кватэры. А гэта таксама дрэнна, бо тут знадворныя формы архітэктуры не адпавядаюць




Будынак Комунальнага Банку ў Менску (рог Ленінскае і вул. Карла Маркса).

яе зьместу. Ня лепей стаіць справа і з будаўніцтвам рабочых клюбаў. Асабліва няўдала пабудаваны на Унівэрсытэцкай вул. маленькі „нявыразны асабнячок“ клюбу мэталістых. Выгляд яго нейкі мізэрны і няпрытульны. Думаецца, што толькі стаўшы на шлях аб'яднаньня клюбаў па некалькі ў адным памяшканьні, можна стварыць тыя паважныя і прываблівыя будынкі, якія павінны быць вогнішчамі культурнае рэвалюцыі і месцамі культурнага рабочага адпачынку.

Наогул, нельга спыняцца, як мы пераважна бачым гэта ў Менску да гэтага часу, на аднастайных тыпах архітэктурных конструкцый без належнае іх увязкі з характарам і прызначэньнем паасобных будынкаў. Кожны будынак вымагае асаблівага падыходу ў разьмеркаваньні мас, прастораў, фасадаў, мураў, вакон і г. д., каб гэтым разьмеркаваньнем стварыць вядомую дынаміку архітэктурнай формы, цалкам адпаведную самому зьместу данае пабудовы.

Таксама пролетарская конструкцыйная архітэктура, зразумела, выключае ўсякую „аздобу дзеля аздобы“, асабліва ў сваіх надворных формах. Але прысутнасьць у ёй некаторых дэкорацыйных элемэнтаў сьцісла зьвязаных як з самой конструкцыяй, так асабліва з асноўнай ідэяй і зьместам будынку, у асобных выпадках ня толькі ўмесна, але і вельмі пажадана. Напрыклад, цалкам мэтазгодна было-бы зьмясьціць на Доме Селяніна, дзе нават для гэтага ёсьць адпаведныя і вельмі выгодныя месцы з рогу будынка, якія-небудзь скульптурныя композыцыі, у якіх адбівалася-б у мастацкай форме ідэя колектывізацыі і індустрыялізацыі сельскае гаспадаркі. Таксама ў будынках рабочых клюбаў магла-бы з посьпехам быць ужыта тая ці іншая тэматычная дэкорацыя з рэволюцыйных падзей або соцыялістычнага будаўніцтва.

Нарэшце, час ужо зьвярнуць у Менску ўвагу на самае разьмяшчэньне будынкаў і іх ансамблі. Сапраўды, самыя месцы для пабудоў абіраліся ў нас часта выходзячы толькі з гаспадарчых меркаваньняў Комгасу. Такім спосабам, напрыклад, Унівэрсытэцкі гарадок апынуўся побач з чыгункай і заціснуты ў бок ад галоўнае вулічнае магістралі, а галоўны корпус нават выходзіць на Савецкую вуліцу не фасадам, але бокам. Таксама ставяцца новыя будынкі на вузкіх вуліцах, бяз водступу, што пазбаўляе магчымасьці далейшага іх пашырэньня і стварэньня новых архітэктурных пэрспэктыў, а разам з тым часта нават не дае магчымасьці адшукаць такіназіральны пункт, адкуль можна было-б атрымаць ад новага будынку суцэльнае ўражаньне. Выстаўленьне будынкаў сярод старых мураваных дамоў, якія ня хутка яшчэ змогуць быць зьнесены, перашкаджае новаму будаўніцтву свабодна распрацоўваць свае пляны, тымчасам вельмі мала выкарыстоўваюцца новыя незабудаваныя пляцы і горад болей расьце ўверх чымся ў шырыню, што цалкам магчыма было-бы цяпер пры новых сродках гарадзкой комунікацыі. Апошнімі часамі, праўда, шэраг пабудоў вынесены за горад на Камароўку. Такім спосабам там створацца цэлыя кварталы новага пролетарскага Менску. Але яшчэ лепей было-бы ласьне там найболей узмацніць новае будаўніцтва, стварыць там цэлы новы горад, які адтуль пераможна мог бы весьці свой наступ на стары Менск сваімі шырокімі вуліцамі аж да самай ракі. З гэтага-ж боку ракі ў большасьці можна было-бы абмежавацца толькі зьнішчэньнем драўляных кварталаў і паасобных драўляных дамоў паміж камяніцамі, і разьбіўкай на іх мясцох маладых зялёных сквэраў.

Нельга, аднак, не адзначыць, што ў бліжэйшай будучыні ў Менску ўжо намячаецца зьнішчэньне шмат якіх з адзначаных хібаў асабліва ў двох новых будынках, якія самае большае праз два будаўнічыя сэзоны ўжо будуць закончаны і стануць, бязумоўна, найлепшымі ў ліку іншых будынкаў новага Менску.



**Проект Дому Ўраду ў Менску, на Савецкай вул., пабудова пачалася сёлета.**

Адзін з гэтых будынкаў—Дзяржаўная Бібліотэка—будзе адным з узорных прыкладаў прыстасаваньня архітэктурнае конструкцыі да мэтаў навукова-культурнае ўстановы.

Увесь поўны сьвятла, як-бы пераважна шкляны, ён прыгожа распадзяляецца на два функцыянальна розныя крылы, аб'яднаныя вялізным уваходам, падкрэсленым лёгкім паўкругам, які быццам шырока заклікае бясконцыя масы працоўных да скарбніцы ведаў перахаваных у будынку, які высока падымаецца з задняга пляну ў выглядзе масыўнага паасобнага кнігасхову.

Другі будынак—гэта Дом Ураду, які мае быць самай грандыёзнай пабудовай у Менску, цалкам адпаведнай яе выключна высокай ролі. Проект яго зацьверджаны пакуль што толькі асноўны, яшчэ схэматычны, але і з яго ўжо відаць усё тое надзвычайна ўдалае архітэктурнае цэлае, якое хутка паўстане на адным з кварталаў Савецкае вуліцы. Строгі, паважны, сымэтрычны плян падзеліць усю пабудову на шэраг сьцісла зьвязаных між сабою паасобных корпусаў, два з якіх вышынёю па пяць паверхаў кожны, выйдуць з бакоў на самую вуліцу, а далей паступова падвышаючыся пойдуць у глыбіню адкрытага з боку вуліцы двара, затым павярнуўшы з абодвых бакоў пад простым кутом і, дасягнуўшы ўжо вышыні сямі паверхаў, яны стройна зыйдуцца ў сярэдзіне з асноўнымі корпусамі, якія вынясуць самую сярэдзіну пабудовы на яшчэ нябачаную ў Менску вышыню дзесяці паверхаў. Насупроць гэтага, сьпераду якбы раскрываючы перад гледачом усю гэтую паважную пэрспэктыву, павінен будзе знаходзіцца вялікі помнік Леніну. Увязваючы ў адно цэлае з навакольным архітэктурным ансамблем, гэты помнік надасьць яму закончаны і выразны зьмест, як найважнейштму адміністрацыйнаму цэнтру Беларускай Савецкай пролетарскай рэспублікі, створанай у вагні Вялікага Кастрычніка пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі і яе геніяльнага правадыра.

З пабудоваю Дому Ўраду пролетарскае будаўніцтва Менску бяспрэчна адсьвяткуе сваю самую значную перамогу. Але, зразумела, яна ня будзе апошняй. ры тых нябачаных тэмпах, якімі ідзе наогул усё наша соцыялістычнае будаўніцтва, за некалькі год, на нашых вачох, Менск ужо зьмяніўся да непазнаньня. А пройдзе яшчэ пэўны час, яшчэ шырэй разгарнецца новае будаўніцтва і канчаткова зьнікнуць нават сьляды старога мізэрнага Менску. На месцы іх паўстане цалкам новы пролетарскі горад, цытадэль на мяжы капіталістычнага Захаду і першай у сьвеце працоўнай краіны Саветаў. Упартая творчая воля пролетарыяту—гэтаму бяспрэчным залогам.



**Як будзе выглядаць будынак Бел. Дзярж. Бібліотэкі, пабудова якое пачалася сёлета на Чырвонаарм. вул.**

# 5 год Беларускага Дзяржаўнага выдавецтва



На малюнках (зьлева направа): Кіраўнік Белдзяржвыдавецтва т. І. Шыпіла. Далей: Першая дзяржаўная друкарня ў Менску: наборшчыкі за касай са шрыфтамі; рыхтуецца стэрэотып для ротацыі; прыпраўка набору да плоскае друкарскае машыны; рыхтуюць да пуску ротацыйную машыну

---

ПАРТЫЯ і ўлада, няўхільна праводзячы клясавую політыку ў нацыянальным пытаньні, узьняла соцыялістычную гаспадарку і пролетарскую культуру ўсіх нацыянальных рэспублік, у тым ліку і БССР, на нябачную дагэтуль вышыню.

Буйны рост гаспадаркі і культуры БССР, ліквідацыя няпісьменнасьці сярод пролетарскіх мас гораду і вёскі, павялічэньне кадру культурных работнікаў з пролетарскага асяродзьдзя, пашырэньне агульнай і спэцыяльнай асьветы—усё гэта стварыла масавага чытача, павялічыла попыт на кнігу на мовах усіх нацменшасьцяй БССР.

Каб задаволіць прагу мас да асьветы і даць школам падручнікі на роднай мове, даць масаваму чытачу кніжку па ўсіх пытаньнях політыкі, экономікі і культуры, партыя і ўрад стварылі буйную кніжную фабрыку—Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.

Працуючы пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва друкуе мільёны савецкіх кніг, якія ў руках партыі і пролетарскай дыктатуры зьяўляюцца магутным сродкам комуністычнай асьветы, комуністычнага выхаваньня мас і сродкам клясавай організацыі гэтых мас.

Вытворчую базу БДВ складаюць поліграфічныя (друкарскія) прадпрыемствы, якія за пяць год у значнай ступені пераабсталяваны новымі друкарскімі машынамі. За 5 год існаваньня гэтыя прадпрыемствы значна вырасьлі як у сэнсе кадраў кваліфікаванай рабочай сілы, так і ў сэнсэ рацыяналізацыі і мэханізацыі кнігавытворчых процэсаў.

У дарэволюцыйны час у Менску аніякіх кніг не друкавалі, а цяпер у друкарні БДВ штодня ідзе праца над трымастамі назвамі кніг на беларускай, яўрэйскай, польскай, расійскай і літоўскай мовах адначасна.

На прадпрыемствах БДВ працуе 550 рабочых-друкароў, машыннае абсталяваньне складаецца з 90 друкарскіх машын і варштатаў.

Агульная аднадзенная продукцыя друкарні складаецца з $1^1/_2$ мільёнаў літар набору, або 35 аркушаў набору (1 аркуш= 16 стар. кнігі сярэдняга фармату), з 300.000 адбіткаў, з 15.000 экзэмпляраў гатовых кніг.

# 1924
# 1929





**БЕЛАРУСКАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ ВЫДАВЕЦТВУ**

**1924—1929**

Сталі ўрад складальнікі—
        Ад таго той бліжай
Літару за літарай,
        Як пацеркі ніжуць.
„Корпусы“ ды „цыцары“
        І побач „пэтыты“
Дыванамі сьцелюцца
        Згодна ў гранкі-пліты.

. . . . . . . . . . . .

Запела „ротацыя“
        А не без карысьці—
За аркушам аркушы
        Сыплюцца, як лісьце.
Пераплётня аркушы
        Шые, рэжа ўволю,
Сьпяшыць літографія
        З вокладкай у колер.

. . . . . . . . . . . .

Кніга у кнігарні ўжо
        Сядзіць на паліцы,
Людзі працавітыя
        Сходзяцца дзівіцца.
А ля выдавецкае
        Скупаватай касы
Аўтар з мінай скромнаю
        Чакае авансу.

. . . . . . . . . . . .

Чаплыло паводкаю,
        Загуло, як вецер,
Слова беларускае
        Па вялікім сьвеце.
Дарма не мінаюцца
        Працы шчырай леты—
Грамада савецкая
        Ушануе гэта.

Былы тэхнічны рэдактар выдавецтва **ЯНКА КУПАЛА**

Гадавая продукцыя прадпрыемстваў БДВ па цэнах 1927-28 г. складае 1.100.000 руб.

За 5 год працы кніжная продукцыя БДВ на ўсіх мовах складае 7.279.400 экзэмпляраў кніг, з якіх падручнікаў 3 мільёны экз., масавай літаратуры—2 мільёны экз., мастацкай—682 тысячы экз, дзіцячай—587 тысяч экз., часопісаў - 94 тысячы экз., і рэшта прыпадае на іншую літаратуру.

Па нацмовах уся кніжная продукцыя БДВ за 5 год распадаецца такім чынам: на беларускай мове—6.464.400 экз. кніг, на яўрэйскай—465.500 экз., на польскай—188.500 экз., на расійскай—152.500 экз., на літоўскай—3.500 экз. і на латыскай—5.000 экз.

Кастрычнікавая рэволюцыя канчаткова зьнішчыла царскае самаўладзтва, разбурыла „турму народаў“, якой была царская Расія для ўсіх нацыянальных меншасьцяй.

Комуністычная партыя і савецкая ўлада, праводзячы цьвёрдую бальшавіцкую лінію пролетарскай дыктатуры, канчаткова зьнішчыла ўсе віды і формы прыгнечаньня нацыянальных меншасьцяй.

# У ПАЛЯСТЫНЕ

Апавяданьне М. ГАРЭЦКАГА

Малюнак Я. Розанава

Ангельскі прэм'ер міністар, лідар рабочае партыі, містар Рамзай Макдональд, сядзеў у сваім габінэце і чытаў біблію.

Усе апошнія дні Лёндан быў у бязупынным дробным дажджы з ветрам, і прэм'ер трохі прастудзіўся. Доктар загадаў яму ня выходзіць з дому, нікога ня прымаць, не займацца справамі і нават ня пісаць дзеньніка.

І ён сядзеў у сваім цёплым габінэце, у мяккім халаце, у пантоплях з пуху, слабаю рукою расчэсваў свае ўжо троху выпетраныя сівыя кудры і вусы, белым, сланёвае косьці, грабенчыкам, і чытаў вялікую кнігу старажытнае мудрасьці.

Але ўвесь час неадчэпна лезьлі яму ў голаў думкі аб сучаснай Палястыне, дзе ў гэты момант лілася кроў.

І мімаволі развяжаў ён, як-бы шукаючы сабе апраўданьня: „Арабаў настроілі комуністы, і кроў, якая там цяпер льецца, няхай ляжа на іхняе сумленьне. Але яўрэйскі народ заслужыў дэклярацыю Бальфура, і мы ня можам скасаваць яе. У імя права і парадку, у імя культуры і цывілізацыі, мы павінны страляць там у гэтых няшчасных паўстанцаў“..

І раптам прыгадаўшы, што яму ня можна думаць на такія тэмы, каб праступа не ускладнілася на яго нэрвовай сыстэме, Рамзай Макдональд захацеў яшчэ болей углыбіцца ў чытаньне сьвятога пісьма, каб супакоіцца.

Ён гартаў біблію, думаючы на чым спыніцца, і спыніўся на тым сваім улюбёным месцы, дзе Абрагам, паводле божага загаду, ідзе рэзаць свайго роднага сына Ісака.

І ён чытаў і дзівіўся вялікай душэўнай моцы ў сьвятога Абрагама... І хацеў быць сам такім як Абрагам...

І, думаючы так, патрохі зусім супакоіўся, згарнуў біблію, пацягнуўся ад хваравітае зябкасьці, высмаркаўся і пачаў класьціся спаць.

* * *

Калі-ж у Лёндане была яшчэ цёмная ноч, над далёкай Палястынай ужо займалася на дзень, і ў горадзе Ерузалеме, у нэйтральным армянскім квартале, у глухім, без вакон на вуліцу доме, канчаўся сход аднаго падпольнага гуртка ерузалемскае комуністычнае моладзі.

На сходзе горача і балюча абмяркоўвалі бягучы момант.

У сакратара гуртку, комсамольцаяўрэя Абрагама, учора па дарозе пад Ерузалемам, цёмныя арабы-фэлахі забілі бацьку.

У члена гуртку, комсамолкі-арабкі Айшы, гэтымі днямі была цяжка паранена маці—шалёнаю куляю, што заляцела ў вакно з вуліцы, калі яўрэйскія дружыньнікі адстрэльваліся ад арабскага натоўпу каля Сьцяны Плачу. Айшына маці жыла на вёсцы і толькі выпадкова была ў Ерузалеме, прыехаўшы даведацца дачкі і разам прадаць мяшэчак гародніны.



Прамаўляючы, Абрагам, і Айша, і ўсе таварышы, якія выступалі, з усіх бакоў высьветлілі сутнасьць паўстаньня арабаў, і адначасна была прынята рэзолюцыя, апошнія два пункты ў якой былі такія:

1) Усімі сіламі распаўсюджваць адозву, выпушчаную комуністычнай партыяй на арабскай і яўрэйскай мове, аб спыненьні дзікай бойкі, патрэбнай толькі ангельскаму імпэрыялізму, яўрэйскай буржуазіі і арабскім нацыяналістам і скірованай супроць адзінага інтэрнацыянальнага пролетарскага фронту.

2) Мобілізаваць усіх сяброў гуртку для распаўсюджваньня адозвы.

Сход скончыўся калі над горадам Ерузалемам ужо сьвяціла гарачае сонца. Абрагам і Айша вышлі са сходу разам, і разам-жа дайшлі яны да мусульманскага кварталу—моўчкі, нічога не гаворачы, але з адным сэрцам і з аднымі думкамі.

Калі яны хацелі ўжо разыйсціся, з аднаго падворка выскачылі арабскія хлапчукі і, закрычэўшы „Бі яго“!—закідалі Абрагама каменчыкамі і чарапкамі ад пабітых гарлачоў.

Адзін чарапок балюча ўдарыў Айшу па калену, але Айша не спалохалася і не пабегла... Яна абхапіла Абрагама леваю рукою, а праваю дастала з кішэні пачак адозваў, сыпнула іх да хлапчукоў і крыкнула па арабску:

— Цёмныя дзеці! Прачытайце, што тут напісана, і вы будзеце ведаць праўду!..

Хлапчукі пахапалі адозвы і разьбегліся..

Абрагам і Айша, сьціснутыя сардэчнай горыччу, завярнулі тады ў яўрэйскі квартал.

Калі яны праходзілі міма першых яўрэйскіх дамоў, на спатканьне ішла яўрэйская пахавальная процэсія—пад аховаю ангельскіх салдатаў. Гэта вязьлі на вечны адпачынак Абрагамавага бацьку.

Адзін стары барадаты яўрэй, убачыўшы Абрагама з арабскаю дзяўчынаю, агідна адхаркаўся і плюнуў у твар Абрагаму.

Другі, такі самы барадаты законьнік, толькі маладзейшы, сагнуўся, згроб жменю пылу і засыпаў Айшы вочы.

Абрагам, белы як палатно, дастаў з кішэні пачак адозваў на яўрэйскай мове і сыпнуў іх перад сабою, быццам абараняючыся. Некалькі адозваў падхапілі маладыя хлапчукі—сыяністы. Адзін з іх перадаў яе бацьку,—багатаму крамніку. Той зірнуў на яе, схапянуўся і ўраз падбег да начальніка ангельскае варты, што вёў за сабою ўсю процэсію, і, тыкаючы перад ім брудным кіпцястым пальцам то ў адозву, то на Абрагама, шыбка забалбатаў, блытаючы ангельскія і яўрэйскія словы: „Комуніст! Комуніст! Будзь проклят! Арыштаваць! Арыштаваць!“

Начальнік махнуў сваёю булдавешкаю і салдаты аховы падышлі да Абрагама і Айшы, надзелі ім наручнікі, прымкнулі адзін да аднаго тым прыгожа зробленым ланцужком і павялі іх у другі бок ад процэсіі, у завулак, дзе турма.

А ў гэты час у вайсковым шпіталі памірала цяжка параненая фэлашка-маці.

* * *

У гэты самы час, раніцою 8-га верасьня 1929 году ў далёкім Лёндане, прачнуўся ангельскі прэм'ер міністар, лідар рабочае партыі, містар Рамзай Макдональд, трохі хворы на прастуду.

І калі ён прачнуўся, яго старэйшая дачка, разумная, прыгожая і скромная міс Бэтсі, зьмераўшы яму тэмпэратуру, ласкава сказала:

— Татачка, чытаць газэты сёньня табе забараняю... Але будзь зусім спакойны: усе тэлеграмы гавораць аб тым, што падзеі ў Палястыне, у выніку рацыянальных мерапрыемстваў нашага ўраду, ідуць на спад..

Ён з бязьмерным бацькаўскім пачуцьцём любіў сваю Бэтсі, якая была так падобна да нябожчыцы маці і замяніла яе ў асірацелай сям'і містара Рамзая.

# Я помню пагром

Успаміны БРАВЭРМАНА









Ахвяры царскіх наймітаў. Верхнія тры малюнкі: забітыя чорнасоценцамі ў часе пагрому 1906 г. у Гомлі працоўныя—яўрэі. Унізе: Параненыя ў шпіталі.

Быў 1905 або 1906 г. Звычайны зімовы дзень праходзіў—набліжаўся спакойны вечар. Але ноч прынесла дзікія крыкі разьюшанага натоўпу, агонь пажарышчаў і нечаканую гібель дзесяткам людзей.

* * *

Час паказаў, што той пагром быў старанна падрыхтаваны паліцыяй, заправіламі з саюзу рускага народу і некаторымі „кроткімі пастырамі“—папамі праваслаўнай царквы.

Пачалося з нейкай дробязі на рынку, але ўжо падрыхтаваны і сьцягнуты куды трэба натоўп грамілаў „у імя цара, бацькаўшчыны і веры праваслаўнай“ шчыра і дружна ўзяўся за працу.

Пачалі з магазынаў, з разгрому вітрын, хутка перайшлі на зьбіваньне яўрэяў на вуліцах, а затым, пад дзікія п'яныя крыкі, пайшлі па дамох яўрэйскай беднаты.

У нашым доме нядоўга панавала трывожная цішыня. Хутка раздаўся ўрывісты стук у дзьверы, і незнаёмы мужчынскі голас маліў аб дапамозе, аб ратунку. Чалавек гаварыў па-яўрэйску. Але ледзь мы яго ўпусцілі, раздаўся нвы стук, на гэты раз больш упэўнены, грозны. Гэта былі казакі і цывільныя грамілы.

— У імя закону, адчынеце, сюды забег злачынца!

Нашы пакоі хутка напоўніліся ўзброенымі п'янымі людзьмі з вінтоўкамі на ўскідку. Перагруска. Шукалі ўсюды. Была незабытная хвіліна. 5-6 гадовая дзяўчынка, якая ў страху забілася ў кут на печы, па загаду казакаў, пад рулямі накіраваных на яе вінтовак павінна была ўстаць і перагрэсьці ўсе прадметы і анучы, што там ляжалі. Дзяўчынка, са скрыўленым ад жаху тварам бяз сьлёз, выканала запатрабаваньне. Але якое шчасьце! Усё абышлося добра. Грамілы забралі толькі ўсё тое, што здавалася ім колькі-небудзь каштоўным, і пайшлі. Наш госьць, які прынёс нам вялікую небясьпеку, быў некранутым і знаходзіўся сярод нас—яго не знайшлі.

Пасьля, калі ўсё ўляглося, незнаёмы чалавек расказаў:

Ён рабочы. Ён сьпяшаўся да сваёй сям'і, але не пасьпеў дабегчы. На вуліцах пачаўся пагром.

* * *

Грамілы „працуюць“ дружна і шчыра. Даносіцца чоткая, спакойная каманда, затым раздаюцца ўдары лому і няспынныя п'яныя крыкі „ура“. Гэта значыць—узламалі дзьверы крамы.

Нашы дзьверы на моцнай завале, жалезныя вароты двара яшчэ абараняюць, але як усьцерагчыся ад полымя, якое бязьлітасна насоўваецца на нас? Дзе паратунак? Трэба дзейнічаць шпарка—хутка будзе позна.

На двары мужчыны радзяцца. Вырашаюць прапанаваць выкуп. Знайшоўся сьмяляк, які падышоў да варот і, высунуўшы руку, запрапанаваў грошы. Але... „паборнікі царя-батюшкі“ не зразумелі намеру чалавека. Адразу блізка грукнула некалькі разоў, рука з грашыма расшчапілася. Сьмяляку абыйшлося лёгка. У яго толькі ня стала на руцэ аднаго пальца.

„Опэрацыя“ ня ўдалая, а хутка ў нашы вокны градам пасыпаліся кулі. Па камандзе старога—гаспадара дому—мы ўсе расьцягнуліся на падлозе, каля сьценкі, што выходзіць на вуліцу. Прытуліўшыся адзін да аднаго, мы маўчалі. Толькі валавяны дождж, зьбіваючы тынк на процілеглай сьцяне, парушае злавесную цішыню.

Але чаму так стогне маленькая дзяўчынка? Полымя, што недалёка бушуе, асьвятляе пакой. Старык паўзком прабіраецца да дзіцяці. Ён абнімае яго і хутка сам цяжка стогне: рука старыка ў крыві.

Калі грукат куль змоўк, дзіця вынесьлі на двор, а хутка і ўсе мы выйшлі з кватэры, у якой ужо больш нельга было заставацца. Дзяўчынка была паранена ў сьцягно.

На двары мужчыны ізноў радзяцца. Прынялі пастанову, вельмі складаную па выкананьні, але якая ў той момант здавалася найпэўнаю. Пры дапамозе дворніка—рускага—сумленнага добрага, старога перакінулі вяроўку праз каменную сьцяну на суседні двор, а там—ратунак! Там жыве багатыр—яўрэй Лаўянаў, у вялікім доме якога ў аднэй палавіне раскватэравана сотня казакаў, а ў другой сынагога. Гэты дом быў у поўнай бясьпецы.

Першымі, перавязаныя вяроўкаю, былі ўзьняты праз сьцяну некалькі мужчын, а затым работа пайшла шпарчэй. Разьмясьціліся ў сынагозе, ахоўваемай цяпер імем купца Лаўянава.

* * *

Цягнецца ноч. Я чую стогны параненай дзяўчынкі ды рыданьні, поўныя гора, змучаных жанчын.

Наступны дзень быў ярка-сонечны. Забойцам трэба было адыйсьці з нарабаваным. Дзеннае сьвятло спыніла пагром. Мы выйшлі на вуліцу. Дагаралі агні пажару...

Фото У. Азерскага



Матальная машына за працай (фабрыка „Чырвоны Тэкстыльшчык“, Менск)

# КАСТРЫЧНІКАМ НАРОДЖАНАЯ

У фабрыкі „Чырвоны тэкстыльшчык“ няма капіталістычнага мінулага. Яна—дзіця Кастрычніка.

Роўна пяць год таму назад, у 1924 годзе, некалькі панчошніц—т. т. Розава, Канер, Давідсон—зьвярнуліся ў Наркампрацы за дазволам арганізаваць арцель панчошніц.

Наркампрацы пайшоў насустрач жаданьню работніц—членаў саюзу і... усяго тры панчошніцы сьмела ўзяліся за працу.

З гэтага і пачала свой жыцьцёвы шлях панчошна-трыкотажная і нітачная фабрыка „Чырвоны тэкстыльшчык“.

Цяпер фабрыка гэта мае панчошнае, трыкатажнае, нітачнае і ткацкае (апошняе ў Барысаве) аддзяленьні, у яе сьценах заняты вытворчай працай 470 жанчын, яна выпускае ў дзень каля трохсот тузінаў панчох і шкарпэтак, яна мэханізуецца.

Гэтакі шлях гэтай Кастрычнікам народжанай, савецкай фабрыкі „Чырвоны тэкстыльшчык“. Яна найлепшая сьведка нашага росту, нашага руху ўперад на шляху да соцыялізму.

## Пераможныя лічбы

Сабекошт продукцыі за мінулы год зьніжаны, замест меркаваньня ў пачатку году пяці процантаў—на шэсьць процантаў, продукцыйнасьць працы павялічылася на 8 процантаў, значна вырасла і зарплата (цяпер сярэдні заробак работніцы—63 руб.), шмат зьменшыўся брак.

А на будучы год намечана павышэньне вытворчасьці працы на 22 проценты пры адпаведным павышэньні зарплаты на 20 процантаў.

І гэта толькі, лічбы асьцярожных у сваіх выкладках адміністратараў. У дагаворы-ж аб соцыялістычным спаборніцтве падвышэньне вытворчасьці працы намечана на 28 процантаў.

Фабрыка ахоплена энтузыязмам соцспаборніцтва. Сто трыццаць работніц-ударніц штурхаюць сваім прыкладам, сваім вытворчым энтузыязмам тых, якія адстаюць... Абвясьціў сябе цалкам ударным нітачны цэх.

Фабрыка мэханізуецца. У самым бліжэйшым будучым мяркуецца пабудова мэханічнай фарбавальні, чакаюць прыбыцьця новых машын—вязальных, трыкотажных і шмат іншых.

Канечна ёсьць і хібы. На фабрыцы пакуль яшчэ мала матальных машын, мала прадзіва. Няма ў тэкстыльшчыц і ўласнага клюбу, чаму і дрэнна пастаноўка культурна-масавай працы.

## У бойках за новы быт

— У дзень „каляд“ мы працавалі ў фонд індустрыялізацыі краіны,—весела паведамляе нам сакратар парт'ячэйкі.—З трох сот шасьцідзесяці работніц толькі адна, т. Варакса, адмаўляецца прыйсьці..—Працавалі нават такія, якія ў гэты час знаходзіліся ў чарговым водпуску!

— Правільна, таварыш сакратар! Гэта вялікая, вельмі вялікая перамога на фронце культурнай рэволюцыі, на фронце будаўніцтва новага соцыялістычнага быту. Гэта вялікі, вельмі вялікі ўдар па нашых клясавых ворагах—па нэпманах, па кулаках, па царкоўніках.

Памірае старая Няміга. Убога чапляючыся за асколкі старога, дарэмна пнецца яна працягнуць сваю сьмяротную агонію, дарэмна пнецца яна сваёй крывой старэчай ухмылкай узбудзіць да сябе ходь цень жаласьлівасьці ў нашых сэрцах... Бяз жалю сьпіхаем мы яе ў прадоньне забыцьця...

У цяжкіх бойках за новы быт у творчых муках соцыялістычнага будаўніцтва, нараджаецца, для ствараемага пролетарыятам комуністычнага грамадзтва, новы чалавек.

Н. Б. П




Фэльетон ЯНКІ МАЎРА

ВОСЬ дзе сапраўды „чорная“ няўдзячнасьць! Вось і вучы пасьля гэтага чорны народ! Вось і нясі яму культуру!

Як вядома, кожная імпэрыялістычная дзяржава спаць спакойна ня можа, калі ў якой-небудзь Афрыцы народ някультурны. І таму ў першую чаргу пасылае туды місіонэраў.

Тыя бяруць з сабой люстэркі, цацкі, каляровыя анучкі, біблію і крыж і нясуць усю гэтую культуру да дзікуноў. Разам з імі едуць гандляры і вязуць цэлыя караблі такой самай культуры. На кожны выпадак далучаюцца яшчэ салдаты са стрэльбамі, кулямётамі, газамі.

За ўсю гэтую цывілізацыю дзікуны павінны аддаваць усяго толькі золата, сланёвую косьць, скуры і іншыя дзікія рэчы. Ды часам яшчэ папрацаваць гадзін з дванаццаць у дзень на эўрапэйскіх плянтацыях.

Самая адказная праца кладзецца на плечы місіонэраў. Яны павінны асьвятліць дзікуноў хрысьціянскім вучэньнем і падрыхтаваць глебу для шчасьлівага жыцьця... цывілізатараў.

І трэба сказаць праўду пра гэтых чорных дзікуноў: здольны народ, уцямлівы, дасканала могуць вывучыць хрысьціянства.

— У абсягах Уганда і Руанда,—піша бэльгійскі місіонэр Ру,—тубыльцы чакаюць мэсію-хрыста, які прагоніць белых, і тады толькі пачнецца ў Афрыцы царства хрысьціянскай справядлівасьці.

— Нейкі нікчэмны нэгар Кібангу,—даносіць губэрнатар Конго,—распаўсюдзіў вучэньне, что прыдзе чорна-скуры мэсіязбаўца, прагоніць белых, і тады будзе ў іх краіне сапраўднае хрысьціянскае жыцьцё.

— У ангельскай Родэзіі нэгар Том Налендва вучыць, што добры хрысьціянскі бог выдзьме ўсіх белых уладароў.

Францускія місіонэры з востраву Мадагаскару скардзяцца на тое самае.

Адным словам, місіонэры так добра навучылі дзікуноў, што яны сапраўды ўверавалі ў добрага хрысьціянскага бога. Усё гэта грунтуецца на шчырым хрысьціянстве. Чорныя апосталы ходзяць па ўсёй краіне і цытатамі з біблії даводзяць, што набліжаецца царства Хрыста, што ён прагоніць белых прыгнятальнікаў. Хрысьціянскі народ прагна слухае гэтыя словы і шчыра моліцца па спосабу, якому навучылі яго добрыя місіонэры.

Спалохаліся місіонэры, кінуліся пераконваць сваіх вучняў:

— Пачакайце! Вы-ж ня так зразумелі, наблыталі! Хрысьціянства трэба разумець вось гэтак...

Але дзе там! Том Налендва з бібліяй у руках адразу разьбіў усе іх довады нават і абвінаваціў місіонэраў у тым, што яны адхіліліся ад хрысьціянства.

Місіонэрам нічога не засталося, як пусьціць свой апошні довад.

Том Налендва быў арыштаваны, скатаваны і павешаны...

Пачалося паляваньне на чорных апосталаў. А разам з гэтым спалена шмат вёсак, парасстраляна шмат народу...

Але дзікуны цьвёрда стаяць за хрысьціянства, хоць ты з імі што хочаш рабі.

Далейшага разьвіцьця падзей мы, пакуль што, ня ведаем, але магчыма дапусьціць наступнае:

Адзін сьвяты езуіт прапанаваў:

— Сьвятыя браты! Давайце вучыць наадварот: ніякага бога няма, усё хрысьціянства—хлусьня. Ніякай дапамогі з неба не дачакаецеся, таму павінны слухацца нашых земных загадаў, бо іначай...

Паслухаліся айца, пачалі вучыць наадварот. Не спадзяючыся на дапамогу, нэгры прыціхлі і пачалі слухацца сваіх гаспадароў.

Але... праз пэўны час пачаліся новыя скаргі:

— Нэгры Бакінгу і Мот распаўсюджваюць вучэньне, што ніякага бога няма, што чакаць дапамогі з неба не выпадае таму нэгры павінны самі...

Тады не заставалася нічога іншага...

Але вернемся да фактаў.

Працу ангельскіх, францускіх і бэльгійскіх місіонэраў мы яшчэ можам зразумець. Іхныя гаспадары маюць вялікія калёніі маюць ад іх вялікія прыбыткі. Дзеля гэтага варта і папрацаваць.

Але што тады сказаць пра такую дзяржаву, як... Фінляндыя! Ніякай калёніі яна ня мае; здавалася-б, ёй зусім няма чаго дбаць аб чорных ды іншых каляровых душах.

Аднак і яны разгарнулі значную дзейнасьць у гэтай галіне.

Як паведамляе газэта „Sennaciulo“, у Фінляндыі таксама ёсьць спэцыяльная арганізацыя, „Фінскае Місіонэрскае Таварысува“, якое займаецца гэтымі справамі. І нават багатая арганізацыя: маемасьць яе складае 12 мільёнаў фінскіх марак.

Ня так даўна гэтае таварыства лёгкамысна абвясьціла сваю справаздачу. З яе відаць, што свае фінляндзкія душы ёй каштавалі 1.200 000 марак, чорныя афрыканскія—2.300.000 марак і жоўтыя (кітайскія)—1.162.000 марак.

Самымі дарагімі душамі аказаліся жоўтыя. За вышэйпаказаную суму апрацована ўсяго толькі 38 душ. Гэта значыць, кожная душа каштавала 30.578,95 марак! Ды яшчэ каб пэўныя былі гэтыя жоўтыя душы, тады яшчэ сяк-так. А то (як скардзіцца сама арганізацыя) некаторыя з іх памёрлі, нават не дачакаўшыся канца справаздачнага году, а некаторыя дык і зусім здрадзілі.

Вядома, чаго добрага можна чакаць ад гэтых баламутных кітайцаў?

На жаль, у газэце не паведамляецца пра сабекошт белых, асабліва-ж чорных душ. Трэба думаць, што, калі арганізацыя ня скардзіцца, яны каштавалі больш танна.

Але ў кожным разе мы можам толькі дзівіцца такой шчырай адданасьці хрысьціянству з боку фінляндцаў. Калі ангельцы, французы атрымліваюць за гэта сланёвую косьць, золата, каучук і іншыя такія рэальныя рэчы, дык фінляндцы гэтага ня маюць. А мільёны кідаюць. Мусіць, яны працуюць толькі дзеля сваіх уласных душ, якія... і карыстаюцца гэтымі мільёнамі.




БАІ на барыкадах. 1919 год. Высока ўзьнялася хваля рэвалюцыйнага ўздыму ў Нямеччыне. Рабочая кляса заядла штурмуе цыгадэлі капіталу... Але пролетарыят прымушаны часова адступіць, каб назапасіць сілы, падрыхтавацца да апошняга штурму.

„Гоп-ля! Жывем, Гоп-ля! Гоп-ля!“—крічыць буржуазія, у п'яным чадзе фокстротаў сьвяткуючы сваю часовую перамогу над паўстаўшымі рабочымі.

Аўтар п'есы „Гоп-ля, жывем“ Эрнст Толер—малады і таленавіты нямецкі драматург. Ён у свой час змагаўся на барыкадах поплеч з рабочай клясай. Адгрымелі баі, Толер сутыкнуўся з іншымі мэтодамі рэволюцыйнага змаганьня комуністычнай партыі. Пачалося ўпартае, жорсткае, няўхільнае і цяжкае змаганьне компартыі за заваяваньне масы, за назапашаньне сіл.

І Толер адступіў.

Сёньня, у непрыміручых клясавых боек—ён толькі „герой левай фразы“. Ён марыць, так, ён толькі марыць аб нейкіх рэволюцыйных выбухах, бо для сапраўднага змаганьня ён не гадзіцца. Ён перастае верыць у мэтазгоднасьць рэволюцыйнай падрыхтоўкі працоўных для нанясеньня канчатковага ўдару капіталістычнаму сьвету.

І Эрнст Толер піша п'есу „Гоп-ля, жывем“. Галоўны герой п'есы—Карл Томас паўтарае затоеныя дробнабуржуазна-анархіцкія думкі аўтара. Але Эрнст Толер ня толькі чалавек, які страціў веру ў бясконцую магутнасьць пролетарыяту, які часам адступае, але ніколі не здаецца. Толер хоць і не разумее сапраўднага сэнсу падзей, але ён іх мастацкі адбівае. Ён выводзіць шэраг са раўдных рэволюцыянэраў, малюе сацыял-дэмократычнага міністра, які беспаваротна перайшоў у лягер буржуазіі. Толер адбівае жыцьцё Нямеччыны аж да нашых дзён. У Толера ўся дзея разьвінаецца як фон, на якім дзейнічае галоўны герой п'есы Карл Томас, у якога рэволюцыйны патос, не знаходзячы сабе прыстасаваньня, не знаходзячы водгука ў сапраўдных байцоў-рэволюцыянэраў, пераходзіць у... звычайную гістэрыю.

Як-жа падыйшоў тэатр да пастаноўкі п'есы? Ці даны толькі пакутваньні дробнага буржуа Томаса, які ня ўмее слухаць музыкі рэволюцыйнай поэзіі ў штодзённым змаганьні, якое вядзе пролетарыят пад кіраўніцтвам компартыі? Або тэатр выпукліў іншыя бакі п'есы, якія вольна або нявольна затушаваў аўтар Эрнст Толер?

Трэба сказаць, што тэатр правільна вырашыў задачу, якая перад ім стаяла. Перад гледачом выяўлена клясавае змаганьне, якім дыша рабочая кляса...

Што за справа змагальнікам за канчатковую перамогу комунізму да перажываньняў „герояў“? Міма, міма!.. Сталёвыя колёны пролетараў ідуць да перамогі, адкідаючы ўсіх, хто перашкаджае і хто імкнецца фразай падмяніць практычную, сапраўды-рэволюцыйную работу.

У такой пэрспэктыве даны паказ спэктаклю. У пастаноўцы наўмысна падкрэсьлены тры асноўных моманты: дарэмныя шуканьні Карла Томаса, пахаджэньні здрадніка—міністра Кільмана і, нарэшце, сапраўднае змаганьне комуністага Альбэрта Кроля і яго прыяцеляй. Усе гэтыя тры пачаткі сутыкаюцца, усе яны досыць яскрава і поўна выяўлены ў пастаноўцы, пераконваюць гледача, навочна паказваюць, як праходзіць клясавае змаганьне ў краіне, дзе яшчэ пануе капітал.

Тэатру прышлося паказаць міністра Кільмана ў атачэньні верхавінак буржуазіі, паказаць дынаміку вялікага гораду, паказаць Бэрлін. Зрабіць гэта ня ў кіно, а ў тэатры—справа ня лёгкая. Аднак—фантазія маладога пастаноўшчыка Норда спалучылася з уменьнем мастака Лобаза, які афармляў пастаноўку, і ў выніку атрымаўся сапраўды бліскучы ў сэнсе знадворнага афармленьня, уменьня скарыстаць конструкцыі, уменьня ствараць мастацкія эфэкты спэктакаль. А самая бэрлінская буржуазная вуліца падана ў разрэзе вострае, дасьціпнае соцыяльнае сатыры. Атрымліваецца відовішча і яскравае і агітуючае. А ў гэтым—задача тэатру.

Карл Томас. Недалужны, нікчэмны—міма яго праходзяць салдаты рэволюцыі. Артысты Рывін справіўся з роляю, ня ўпаў у непатрэбную трагічнасьць, яшчэ раз паказаў, што ён тэмпэрамэнтны і чулы актор. Томас, нарэшце, канчае самагубствам. Гэтая канцоўка спэктаклю зусім сябе лёгічна апраўдвае. І Рывін вядзе сябе ўвесь час так, што робіцца зразумелым і гэты канец.

Характэрны і паказальны эпізод: Томас хоча застрэліць міністра Кільмана. Партыя забараняе індывідуальны тэрор. Усё-ж Томас з рэвольвэрам ідзе да міністра. Але Томас не пасьпявае выстраліць. Яго папярэджвае студэнт-фашысты, які забівае міністра. Сьцежкі-дарожкі фашыстага і чалавека, які не пажадаў лічыцца з дысцыплінай партыі, зышліся, і тэатр гэта падкрэсьлівае, надае гэтаму факту мастацкую форму.

І, нарэшце, праўдзівы Альбэрт Кроль—комуністы-змагар і яго таварышы. З роляю Кроля зусім спраўляецца Мойн. Перакануўча цьвёрда і, адначасова па-жаночаму цёпла, праводзіць сваю цяжкую ролю комуністкі Эвы Бэрг—Нэльсон. І толькі старая рэволюцыянэрка Лібэрман паказана ў выглядзе добрае бабулькі, а не змагаркі.

А наогул—дружны і таленавіты колектыў маладых актораў стварыў шэраг цікавых тыпаў рабочых-змагароў, самазадаволенага юнкерства, дробнага, тупога мяшчанства.

Не дарма працаваў тэатр над пастаноўкай п'есы чужаземнага аўтара.

І ў далейшым, бязумоўна, варта папрацаваць і паказаць нашаму гледачу сапраўды каштоўныя рэчы чужаземных аўтараў.

З. Д-н.

# ПА ЎСІХ КУ







Супроцьангельскі рух у Палистыне. З п р а в а г а б о к у: Арабскі мітынг у гор. Аманс. У с я р э д з і н е: Ангельская сьледчая камісія ў Палистыне: п. п. Ранк, Бойд Мэрыман. З ь л е в а член камісіі Гары Снэл (рабочы) гутарыць з яўрэямі - калёністымі ў Бэт Альфа.



Італійская артылерыя ў Трыполі: Гарматы перавозяцца на вярблюдох.





Клясавая барацьба ў Амэрыцы. З ь в е р х у:— Забастоўка тэкстыльшчыкаў у Гомэрсэце. Пікет забастоўшчыкаў. З ь л е в а: Гастонскі працэс. Рабочыя тэкстыльшчыкі за кратамі. Зьнізу: Астрог у гор. Обори, дзе адбыўся бунт вязьняў. У выніку: 9 вязьняў забіты і 8 паранены.



Новы прэзыдэнт Мэксыкі п. Октыс Рубіё.



Новы прэзыдэнт Швайцарыі, п. Жан М ю с с і. Дагэтуль быў міністрам фінансаў. Прэзыдэнтам абраны ўжо ў другі раз.






Дэмонстрацыя беспрацоўных у Бэрліне.

# ТКОХ СЬВЕТУ



т. М. Карклін, назначаны нам. старшыні Дзяржбанку ССР.



Новы нам. Старшыні СНК БССР т. Бэнэк. Да апошняга часу быў Наркамгандлю і вызвалены ад гэтае пасады ў сувязі з новым прызначэньнем.



Тав. Багамолаў, былы паўпрэд СССР у Польшчы. Назначаны райцаю нашага прадстаўніцтва ў Лёндане.



Помнік У. І. Леніну, пабудованы ў краявым цэнтры Паміру (Сярэдняя Азія)



Новы сакратар Саюзнае Акадэміі Навук акадэмік Камароў.





Шэраг вясковых цэркваў, паводле прыгавору сялян, передаецца пад сьвірны для ссыпкі хлеба. На здымку: унутраны выгляд царквы-свірна.



Колектывізацыя нашае сельскае гаспадаркі вядзе за сабой карэнную перабудову ўсяго вясковага быту. Усьлед за абагульненьнем ворані, інвэнтара, жывёлы высоўваецца пытаньне пра абагульненьне хатняе гаспадаркі, быту, пра організацыю ясьляў, грамадзкага хлебапячэньня, харчаваньня і г. д.

У гэтай справе рашучая роля, бязумоўна, належыць жанчыне—працоўнай сялянцы. 10 студзеня г. г. у Крупках адбылася раённая нарада жанчын-колгасьніц, на якой абгаварваўся шэраг вельмі важных пытаньняў.

На здымку зьлева: Нарада колгасьніц Крупскага раёну.

Зьверху: Прэзыдыум нарады.



У ..енску пачалі працаваць курсы па падрыхтоўцы рабочых, якія едуць на працу ў колгасы. На малюнку. Курсанты прапрацоўваюць пастановы апошніх пленумаў ЦК.





Надосьні ў Сухуме (Абхазія) адбыўся процэс 44-х кулакоў, гандляроў і г. д., якія, пралезшы ў дзяржаўны апарат, усімі сіламі яго раскладалі. На малюнку: Зьлева: пакалечаны кулакамі сакратар парт'ячэйкі т. Паназьян. Справа: група кулакоў-тэрорыстых на лаве падсудных.

# Кніжная вітрына

**М. Масквін.—Падрыўнікі (пераклад з расійскае мовы). БДзВ. Менск 1929 г. 64 стар. Цана 15 кап.**

Прыгожа і танна выданая кніжачка апавядае аб адным з шматлікіх, але ўзрушаючых момантаў з жыцьця Чырвонай арміі. Мінна-падрыўнае аддзяленьне вайскова-інжынэрных курсаў накіроўваецца на адказны вучастак фронту. Адзін з курсантаў гіне, але перад сьмерцю ён пасьпявае ўзарваць мост і адрэзаць дарогу назад белагвардзейскаму бронецягніку „Генэрал Каледзін".

М. МОСКВІН

ПАДРЫЎНІКІ



БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА

Апавяданьне з цікавасьцю будзе прачытана масавым чытачом. Зойме яно і пачэснае месца ў чырвонаармейскай бібліотэцы.

**Ул. Паскрэбка — Трактар будзіць раньне. БДзВ. Менск 1929 г. 68 стар. Цана 10 кап.**

Мы амаль ня маем нарысаў аб нашых дасягненьнях, аб індустрыялізацыі краіны, аб колгасным будаўніцтве.

ТРАКТАР БУДЗІЦЬ РАНЬНЕ

Кніжачка Паскрэбкі дае замалёўкі падарожжа аўтара разам з двума сялянамі в. Гаровчыцы на Мазыршчыне ў комуну імя К. Лібкнэхта (Быхаўскі раён, Магілеўшчына) Першы дзень побыту сялян, якія ня зусім веручы прыехалі паглядзець і павучыцца ў комуну, пададзены аўтарам досыць яскрава. Перад чытачом праходзіць пачатак рабочага дня, калі трактар будзіць раньне, далей разгортваецца рабочы дзень з усімі яго рознастайнымі праявамі. Дадзены і шэраг лічбаў, якія падмацоўваюць дасягненьні комуны. З вуснаў старога комунара Рыгора аўтар перадае звычайную гісторыю — гісторыю, якая аднак глыбока захапляе чытача, гісторыю змаганьня за зямлю, змаганьня за новыя формы сельскае гаспадаркі.

Неабходна БДзВ выдаць найхутчэй шэраг невялікіх кніжачак-нарысаў аб нашых дасягненьнях, бо апрача гэтае кніжкі, мы амаль нічога (апрача М. Гольдбэрга—„Пабягуць слупы" і Скрыгана—„Новая Зямля") ня маем.

**Я. Ліманоўскі—Вецер з усходу. „Мастацкае слова—масам". БДзВ. Менск. 1929 г. 70 стар. Цана 15 к.**

Нарэшце к канцу 1929 г. БДзВ пачало выдаваць спэцыяльную сэрыю „Мастацкае слова—масам".

Выданьне гэтай сэрыі надзвычайна важная і патрэбная справа.

Масавая мастацкая кніга павінна дапамагчы масаваму чытачу—рабочаму і селяніну ўсьвядоміць і адчуць усю веліч, усю грандыёзнасьць гістарычных зрухаў, якія адбываюцца на яго вачох. Масавая мастацкая кніга павінна запаліць агнём энтузіязму чытача, арганізаваць яго волю да далейшага змаганьня

МАСТАЦКАЕ СЛОВА МАСАМ

Я. ЛІМАНОЎСКІ

ВЕЦЕР З УСХОДУ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА МЕНСК 1929

Нарэшце, яна павінна наблізіць да чытача лепшыя творы сучаснай пролетарскай літаратуры.

„Вецер з усходу" Я. Ліманоўскага зьяўляецца першай кніжкай, якая вышла ў гэтай сэрыі. У гэтым творы аўтар паказвае часы нацыянальна-вызваленчага разброду на Беларусі пасьля рэволюцыі 1917 году.

Ні Літоўская Тарыба, ні Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, ні Польскі Нацыянальны Камітэт ня здолелі даць вызваленьне беларускім рабочым і сялянам.

Гэта вызваленьне прыйшло з Савецкага Ўсходу пад сьцягам Кастрычніка.

Да недахопаў твору трэба аднесьці некаторую публіцыстычнасьць.

**М. Лынькоў — Гой (апавяданьні) „Мастацкае слова — масам". БДзВ. Менск 1929 г. 71 стар. Цана 30 кап.**

Наша літаратура бедна творамі з жыцьця іншых нацыянальнасьцяй. Таму прыемна адзначаць зьяўленьне кніжкі М. Лынькова.

Першае апавяданьне („Гой") прысьвечана паказу тых глыбокіх унутраных процэсаў, якія адбываюцца ў сувязі з рэволюцыяй у патрыярхальным быце местачковага яўрэйства.




Руйнуюцца ўкаранелыя стагодзьдзямі забабоны і традыцыі яўрэйскага мястэчка. Рыва, дачка местачковага шаўца, выходзіць замуж за „гоя".

Аўтар з мастацкай прастатой малюе трагэдыю былой социяльнай і экономічнай няроўнасьці. Студэнт Гома (апавяд. „Гома") вар'яцее ад нешчасьлівага каханьня да дачкі крамніка-багача, Лэі.

Апошні абразок („Беня-балагол") маляўніча паказвае тып местачковага балаголы, які ўжо адмірае.

Апавяданьні Лынькова цікавы ня толькі па сваім бытавым матэрыяле, але і па бясумоўна значных мастацкіх вартасьцях. Толькі чамусьці БДзВ досыць высока расцаніла гэту кніжку (30 кап.), бо такога-ж памеру кніжка Ліманоўскага ў гэтай сэрыі каштуе 15 кап. На гэта трэба зьвярнуць увагу.

**Якуб Колас (Тарас Гушча)—Збор твораў, том II. БДзВ. Менск 1929 г. 187 стар. Цана 1 р. 60 кап. у аправе.**

Другі том збору твораў Я. Коласа зьмяшчае шэраг эпічных твораў у вершаванай форме, якія дагэтуль былі раскіданы па розных выданьнях.




Творы ахапляюць час амаль усяе літаратурнае дзейнасьці аўтара (з 1907 г. да 1928 г.).

З боку тэматычнага яны закранаюць выключна жыцьцё беларускага сялянства, усіх яго социяльных праплastаваньняў, і тых асоб, якія мелі да яго блізкае дачыненьне: вясковай інтэлігенцыі, прадстаўнікоў савецкае і старое царскае ўлады, прадстаўнікоў рэлігійных культаў і г. д.

Сюжэты іх не складаныя.

Частка зьяўляецца апрацоўкай народных апавяданьняў („Зяць", „Паслушная жонка", „Прапаў чалавек", „Як Янка забагацеў") і казак („Рак-вусач, „Дзед і мядзьведзь").

Другая частка дае паасобныя замалёўкі сялянскіх забабонаў („За дождж"), ігрышч („Ігрышча"), сьвяткаваньня розных фэстаў („Па дзядзькох", „Сьвяты Ян"), наогул вясковага быту („Батрак", „Паўлюкова бяда", „Сіла агітацыі"). Грамадзкая вартасьць гэтага томіка параўнальна—нязначная.

**Ф. Сярэдні.**

---

**Папраўка. У папярэднім № „Чырвонае Беларусі" на ст. 11 у вершы Янкі Купалы „Дыктатура працы" ў 4 радку 3-яе строфы напісана: „Зруйнуеш", — трэба чытаць: „Зрайнуеш дыктатура працы".**

Рэдакцыя.

# ЧОРНАЯ СОТНЯ.

Гомель 1903-1906 году. Мізэрнае прыгнечанае жыцьцё. Няма грамадзян, а ёсьць толькі „подданные государя - императора“. Нэндза, голад, пагоня за кавалкам хлеба... І страх, страх перад кожнай паліцэйскай шапкай, перад кожным гарадавым на скрыжаваньні вуліц, перад кожным паліцэйскім вучасткам.

А па горадзе разгульвае п'яная і пахабная чорная сотня. З благаславеньня Пурышкевічаў, Дубровіных, графоў Канаўніцыных і графінь Паскевіч члены „саюзу рускага народу“—валачацца, п'яніцы, абадранцы, нанятыя чорнасоценцамі і паліцыяй за чарку гарэлкі, за трохрублёўку—б'юць „жыдоў“, пустошаць магазыны, гвалцяць жанчын, зьбіваюць рабочых рэвалюцыянэраў.



Пасяджэньне суда.

Гэта называлася ў іх працаваць на „веру, царя и отечество“, гэта называлася ў іх „спасать Россию“.

Гомельскай чорнай сотняй кіраваў Давыдаў—тады буйны падрадчык, Макашэўскі, афіцэр Ляхаў, Коганаў, Шведаў, Рымароў...

Гэта імі, гэта па іхнаму загаду і пры іхным садзейнічаньні быў забіты рабочы-рэвалюцыянэр Кажамякін, да паўсьмерці зьбіты рэвалюцыянэр Жыхароў і шмат іншых.

Страшны гэта быў час.

* * *

Кастрычнікавая рэвалюцыя спыніла панства сваволі, бізуна, паліцэйшчыны... Паклала яна канец і існаваньню чорнай сотні—гэтай банды забойцаў, падпальнікаў, пагромшчыкаў.

Узяўшы ўладу ў свае рукі, на чале краіны стала рабочая кляса, якая эксплёатавалася ў царскія часы, тая кляса, якая праз дыктатуру пролетарыяту прывядзе нас да новага комуністычнага грамадзтва.

Прытаіліся былыя пагромшчыкі. Пахаваліся падалей, з надзеяй утаіць свае ганебнае мінулае, з надзеяй на тое, што быць можа потым, пазьней, надыйдуць ізноў для іх „залатыя дзяньгі“.

Але глыбока памыляюцца ў сваіх марах ворагі рэвалюцыі... Аднаго за адным вылоўліваем мы іх з іхных асіных гнёздаў, выводзім іх на сьвежую ваду.

І вось перад вярхоўным судом у Гомелі сталі былыя „героі“ гомельскіх пагромаў. Давыдаў—кіраўнік і організатар „саюзу рускага народу“ ў Гомлі, Вільні, Воршы, Макашэўскі, Коганаў і шмат іншых.

О, канечна, яны ўсе адмаўляюць сваю віну. Давыдаў уваходзіў у „саюз рускага народу“, але ўваходзіў ідэёва, таму што хацеў „дапамагчы рамесьнікам“, уваходзіў таму, што „памыляўся“.



Галоўны сьведка процэсу т. Гезэнцвэйг, кіраўнік яўрэйскіх атрадаў самаабароны ў 1903 годзе.



Сьведка Хайкіна. У часе пагрому была паранена і кантужана.



Сьведка Хайкін, якому Давыдаў шабляю параніў галаву і шыю.

Урэшце, „ідэёвасьць“ ніколькі не перашкаджала яму браць грошы ад паліцыі, браць грошы ад організатараў пагромаў.

Да яўрэяў ён ставіўся „дабрадзейна, ён ня любіў толькі „яўрэяў капіталістых“. А між тым, „малайцы“ яго ў часе пагромаў патрашылі пярыны, палілі дамы, рабавалі і зьбівалі толькі бедных яўрэяў, рабочых розных нацыянальнасьцяй, рэвалюцыянэраў.

Яўрэйскіх капіталістых, расійскіх, беларускіх яны не чапалі. Тыя ахоўваліся атрадамі казакаў, царскай паліцыяй.

Рымароў толькі „сп'яну“ увайшоў у „саюз рускага народу“. Ен нічога ня помніць, нічога ня ведае. П'яным прымаў ён удзел у пагромах.

* * *

Але бальшавікі-падпольшчыкі, старыя рэвалюцыянэры—сьлесар Бозьняк, Маршоў, Шустоў ушчэнт разьбіваюць так тонка пабудаваны плян абароны контррэвалюцыянэраў.

Яны, гэтыя старыя бальшавікі, якія за царом ня раз сядзелі ў турме, добра ведаюць і Давыдава, і Рымарава, і Ляхава, і іншых.

Гэта чорная сотня забіла Кажамякіна, гэта яна на чале з Ляхавым у 1903 годзе і на чале з Давыдавым у 1906 годзе рабіла пагромы, забівала, рабавала.

Прызнае Давыдава і сьведка Брант—сьледчы царскага суду, які вёў дазнаньне па справе аб пагроме 1906 году ў Гомлі і які тады даў загад арыштаваць Давыдава, як кіраўніка чорнай сотні.

Толькі паліцыя дала Давыдаву магчымасьць зьнікнуць з гомельскага краявіду, а Бранта... па загаду Шчэглавітава (у той час міністр юстыцыі) звольнілі і засадзілі ў турму.

* * *

Сьледзтва скончана, дапрошаны сьведкі, дапрошаны падвіноўныя, сказалі свае прамовы прокурор і абарона... Пролетарскі суд ідзе на нараду для вынясеньня свайго клясавага, справядлівага вырашэньня па гэтай старой крывавай справе.

І прысуд яго строгі да ворагаў, але справядлівы і мэтазгодны. Давыдаў—да расстрэлу, Макашэўскі—да 8 год зьняволеньня, Коганаў—да 5 гадоў зьняволеньня, трое апраўданы, у адносінах да шасьці, за даўнасьцю злачынства суд знайшоў магчымым мер соцыяльнай абароны ня ўжываць. Прысуд канчатковы абскарджаньню не падлягае.

Заслона спушчана над гэтай крывавай бруднай справай. Пагромшчыкі і контррэвалюцыянэры атрымалі па заслугах.

Б. К.

# „УДАРНІКІ“

Малюнкі Вало

Тэкст Л. С.



Апошні ўдар перад здачай патэнта



Выхаваньне зьмены ў „ударным“ парадку




„Ударная“ работа саматужніка-адзіночкі з поваду арганізацыі колектываў



— „Я па ёй ударыў, а яна па мне, ну і квіты“...

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва.

Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ.

# КОНКУРС НА ЛЕПШУЮ ДЗІЦЯЧУЮ КНІЖКУ

**БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА І НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ АСЬВЕТЫ БССР АБВЯШЧАЮЦЬ ШЫРОКІ ЎСЕБЕЛАРУСКІ КОНКУРС НА ЛЕПШУЮ ДЗІЦЯЧУЮ КНІЖКУ І ЛЕПШУЮ ДЗІЦЯЧУЮ П'ЕСУ**

## ЗАДАЧЫ КОНКУРСУ

1. Даць пакаленьню Кастрычніка—нашым акцябратам, піонэрам і школьнікам—радасную, бадзёрую, таленавітую, высока-мастацкую кніжку, якая-б найбольш поўна, яскрава і праўдзіва ў даступнай дзіцячаму разуменьню форме адбівала ідэі комунізму, паказвала сёняшні дзень—час непасрэднага будаўніцтва соцыялізму.

2. Прыцягнуць старых, выявіць новыя кадры (з пэдагогаў, настаўнікаў, пролетарскіх студэнтаў, пачынаючых поэтаў, журналістых, рабкораў і селькораў, работнікаў дашкольн. выхаваньня) пісьменьнікаў для стварэньня белар. пролетар. дзіцячай кніжкі.

**ТЭМЫ.** Прапануем усім жадаючым прыняць у конкурсе ўдзел аўтарам наступныя тэмы для распрацоўкі іх у мастацкай і бэлетрыстычнай форме.

1. **Будаўніцтва соцыялізму** ў Саюзе Саветаў і будучая сусьветная комуна.
2. **Саветы**, як форма пролетарскай дыктатуры і як самая вышэйшая форма дзяржаўнага ладу з усіх існаваўшых і існуючых.
3. **Пяцігодка** і яе соцыяльнае значэньне. Выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.
4. **Беларусь фабрык і заводаў** (індустрыялізацыя БССР).
5. **Будуецца комуністычная вёска** (суцэльная колектывізацыя).
6. **Новы комуністычны быт** (культурная рэволюцыя).
7. **Рысы новага чалавека** (колектывізм, як у піонэр-атрадзе, у працоўнай політэхнічнай школе, у гуртках і майстэрнях вырастае новы чалавек).
8. **Комуністычная дзіцячая організацыя** (дзеці да пазтупленьня ў піонэрскі атрад, піонэры ды іх актыўная грамадзка-карысная работа ў атрадзе, розьніца паміж неорганізаванымі дзецьмі і піонэрамі).
9 **Чырвоная армія—пільны вартаўнік Савецкага Саюзу** і ўдзельнік соцыялістычнага будаўніцтва.
10. **Сусьветная рэволюцыйная барацьба**, яе асобныя яркія моманты раней-шых і апошніх часоў.
11. **Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!** (Баявая міжнародная солідарнасьць).
12. **Клясавая барацьба**, як вынік разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва **перамога соцыялістычных элемэнтаў над капіталістычнымі).**
13. **Рэволюцыйнае мінулае** Савецкай Беларусі.
14. **Панскі ўціск** працоўнага народу ў Заходняй Беларусі.
15. **Партызанскі рух** і белапольская акупацыя Беларусі (героі партызаны).
16. **Дзеці інтэрнацыяналістыя** (ачышчэньне дзіцячай псыхікі ад атруты нацыянальнай варожасьці, шовінізмаў і г. д.).
17. **Ударныя бязбожнікі** (нясумяшчальнасьць рэлігіі з сьветапоглядам новага чалавека).
18. **Ініцыятыва комуністычнай дзятвы** (юныя конструктары, юныя вынаходцы, юныя тэхнікі і г. д.).
19. **Соцыялістычная прамысловасьць**—асобныя буйныя фабрыкі і заводы, пабудаваныя пры Савецкай уладзе.
20. **Прыродныя багацьці БССР** (лес, торф інш.).
21. **Прыродныя багацьці СССР.**
22. **Рэалістычная фантастыка** соцыялістычн. будаўніцтва (якім будзе выглядаць Савецкі Саюз праз 5—10 год, як мы „заўтрашнія" ня будзем пазнаваць сябе „сёньняшніх").

Можна пісаць і на іншыя тэмы, якія маюць соцыяльнае значэньне.

## УМОВЫ КОНКУРСУ

1. Кожная кніжка няміnуча формуе пэўным чынам соцыяльную псыхіку дзяцей, а таму кожны твор пасланы на конкурс павінен мець ярка-выражаную соцыяльную накіраванасьць, акрэсьленую соцыяльную мэту.

2. Дзіцячая кніжка павінна быць высока-мастацкі напісана. Яна павінна даваць дзецям эмоцыі бадзёрасьці, эмоцыі раданага ўспрыйманьня соцыяльных процэсаў працы, адчуваньне жывой непарыўнай сувязі з колектывам.

3. Мова дзіцячай кніжкі павінна быць мастацкі простай, вобразна-чыстай, зразумелай, новай, якае навучае дзяцей лёгка і правільна выказваць свае думкі.

4. Фантастыка ў дзіцячай кніжцы павінна мець пераважна рэалістычны ды ігравы характар і павінна быць цесна ўвязана з соцыяльнаю мэтай мастацкага твору.

5. Разьмер дасланай на конкурс дзіцячай кніжкі не павінен перавышаць: мастацкая проза—6 друк. аркушоў, п'есы—1 друк. аркуш.

6. Рукапісы могуць быць напісаны на беларускай, яўрэйскай, польскай, расійскай ды іншых мовах. **Апошні тэрмін прысылкі рукапісаў—1-га жніўня 1930 году.**

7. Конкурс будзе закрыты. Гэта значыць, рукапісы трэба прысылаць выключна пад дэвізамі (умоўнымі абазначэньнямі—словамі, сказамі) з аднгачасным дадаткам запячатаных конвэртаў пад тымі-ж самымі дэвізамі, у якіх хаваецца паведамленьне аб прозьвішчы, імені і адрас аўтара. Дэвізныя конвэрты прэміяваных твораў ускрываюцца пасьля канчатковай пастановы савету журы аб выніках конкурсу. Дэвізы тых твораў, якія прэміі не атрымалі, але якія прызнаны годнымі для друку, ускрываюцца па згодзе аўтара.

8. Рукапісы дасылаць на адрас: **Менск, Савецкая, 63, БДВ, Юнсэктару.** З паметкай „На конкурс дзіцячай кніжкі".

## ПРЭМІІ:

| | |
|---|---|
| **1-ая прэмія . . .** | **1.000 руб.** |
| **2-ая—4 прэміі па .** | **500 „** |
| **3-яя—4 „ „ .** | **250 „** |
| **4-ая—6 „ „ .** | **100 „** |

Усе рукапісы прэміяваныя, а таксама і тыя, што прэміі не атрымалі, але прынятыя БДВ да друку, аплачваюцца павышаным ганорарам: мастацкая проза—120 р., п'есы—180 р. за друкаваны аркуш (1 аркуш—40000 літар).

## САВЕТ ЖУРЫ:

Народны поэт **Якуб Колас**, старшыня Галоўнавукі проф. **Панкевіч**, старшыня Галоўпалітасьветы тав. **Галавач, т. т. Цьвікевіч** (член праўленьня БДВ, заг. выд. аддз.), **Паваротны** (адказны рэд. юнсэктару БДВ), **Буклей** (ЦБ Ю. П.), **Рывін** (НКА), **Гарбуз** („Піонэр Беларусі"), **Гэзін** (Юнгэр Ленінец"), **Якімовіч** („Іскры Ільліча), **Александровіч Алеся, Янка Маўр, Савёнак П.** (настаўнікі і аўтары), **Лабадаеў** (АПА ЦК КП(б)Б).

Прадстаўнікі ад наступных організацый і ўстаноў: БелАППу і яго нацыянальных сэкцый, „РОМБ", „Узвышша", часопісі „Асьвета", Галоўліту і інспэктары дашкольнага і соцыяльнага выхаваньня НКА.

**БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА**
**НАРОДНЫ КАМІСАРЫЯТ АСЬВЕТЫ БССР**

# ДА 5-ГОДЗЬДЗЯ БЕЛДЗЯРЖКІНО

У ХУТКІМ ЧАСЕ НА ЭКРАНАХ СССР

## НОВЫ ВЫДАТНЫ МАСТАЦКІ ФІЛЬМ

**ЛЕПШЫЯ ВОДГУКІ ПРЭСЫ БССР**

ПЕРШЫ ФІЛЬМ БЕЛДЗЯРЖКІНО, ЯКІ АТРЫМАЎ 1-ую КАТЭГОРЫЮ.

**6** ЧАСТАК З ПРОЛЁГАМ

# ВОЛАТ

ВЫТВОРЧАСЬЦЬ БЕЛДЗЯРЖКІНО



Сцэнары і консультацыя А. ВОЛЬНЫ
Рэжысэр В. КОРШ
Опэратар Д. ШЛЮГЛЕЙТ

**У ГАЛОЎНЫХ РОЛЯХ:**
Ганна ЗАГЖЫЦКАЯ Мікола ВІТОЎТАЎ
Барыс АЗАРАЎ Васіль ЧУДАКОЎ
▫▫▫▫ Барыс ФЕАДОСЬСЕЎ ▫▫▫▫

## КОЖНЫ ДЗЕНЬ НОВАЯ КАРЦІНА

У ЗЬВЯЗКУ З 5-ГОДЗЬДЗЕМ БЕЛДЗЯРЖКІНО Ў ЛЮТЫМ М-ЦЫ г. г. У КІНО „КУЛЬТУРА“, У МЕНСКУ, НА ПРАЦЯГУ ДВУХ ТЫДНЯЎ БУДУЦЬ ДЭМОНСТРАВАЦЦА ФІЛЬМЫ БДзК.



„ЛЯСНАЯ БЫЛЬ“, „КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ“, „ХВОІ ГАМОНЯЦЬ“, „У ВЯЛІКІМ ГОРАДЗЕ“ „ПЕСЬНЯ ВЯСНЫ“, „ЯГО СЬВЕТЛАСЬЦЬ“ „400 МІЛЬЁНАЎ“, „ДА ЗАЎТРАГА“ І ІНШ.

